

Анатоль Краўчук→3

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Беларусы над морам→9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 42 (2997) Год LVIII | Беласток, 20 кастрычніка 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

Але калі глядзім на яго мастацтва, то мне здаецца, што Бацька-Бог даў яму ў дзяцінстве неверагодны падарунак — нябачную лесвіцу, па якой ён змалку залазіў на аблокі і плыў на іх, углядаючыся на прыгажосць колераў яго зямелькі вакол Каменя ці Курашава. Ад веснавога квітнення садоў да восеньскіх жоўтасцяей усё ўнізе гарэла і ззяла колерамі.



Зэнэк пры адной са сваіх карцін. Фота В. Генсліцкага, Беласток 1998 г. Здымак змешчаны ў каталогу „ЗЭНЭК”, выдадзеным галерэяй „Бяла” з Любліна ў 2008 годзе

# Зэнэк-хмарачос

Толькі мясцовы чалавек патрапіць зразумець тонкасці эстэтычна-духоўных памкненняў ці патрэб сваіх аднапляменцаў. Наш код беларускіх абарыгенаў Падляшша, называных папулярна суседзямі праз дарогу рускімі, з'яўляецца для іх часта незразумелым. Мы самі, дарэчы, хочам выкінуць з сябе сваю адметнасць, каб хутчэй упісацца ў бясспоглядную аніякасць. І быць, як на такіх людзей гаварылі ў маёй вёсцы, „ні печаным, ні вараным”. Напэўна такім ніколі не быў народжаны 21 кастрычніка 1939 г. у вёсцы Камень на Гайнаўшчыне мастак Ларыён Данілюк у народзе званым і больш вядомым як Зэнэк. Імя Ларыён рэдка сустраканае нават у тутэйшай, праваслаўна-беларускай прасторы, таму напачатку будзе пра імя. Вядзецца яно з грэцкай мовы і абазначае чалавека радаснага, ціхамірнага. Ларыён — так называўся і першы мітрапаліт кіеўскі, які выводзіўся з Русі, а не з Грэцыі. Здарылася гэта ў 1051 г. Быў ён адукаваным манахам, які вёў аскетычнае жыццё. Выкапаў ён для сябе пячору над берагам Дняпра, у якой маліўся доўгімі гадзінамі. Манаскія абяцанні даў ён перад святым Антонім Пячорскім. У календары імяніны Ларыёна памечаныя 12 лютага, 12 ліпеня, 21 кастрычніка.

Бацька славутага мастака Аляксандр Данілюк быў чалавекам адукаваным і пісьменным, вельмі набожным. Вёска Камень блізка Курашава, у якім прыхадскім святам з'яўляецца царкоўны фэст у гонар... Антонія Пячорскага. Аляксандр Данілюк, як чалавек начытаны, відаць дакладна праверыў у календары хто святкуе імяніны 21 кастрычніка і якія царкоўныя героі кружацца вакол гэтага дня. Памятайма яшчэ, што гэта быў кастрычнік 1939 г., ішла II сусветная вайна, а да нас прыйшлі саветы, бязбожніцтва якіх вернуючым людзям цяжка было ўявіць. Адзіны ратунак ад шаленства вайны і беспарадкаў — малітва, спакой і божая сіла. І калі пад гэтай датай нарадзіўся сын — рэдкае імя было яму дадзена невыпадкова. Гэтае імя хлопец не любіў, адтуль узяўся потым Зэнэк. Але некаторыя свае карціны ўсё ж такі падпісваў імем Ларыён. Вяртаючыся да бацькі мастака і выбару імя, трэба яшчэ ўлічыць і той факт, што паводле пераказаў у міжваенны перыяд быў ён адным з прызнаных паклоннікаў і супрацоўнікаў прарока Ілы з Грыбоўшчыны каля Крынак. Па ўсім Падляшшы, таксама ў ваколіцах Каменя, Курашава, Нарвы было нямала яго староннікаў. У 2004 г. літаратурную прэмію імя Вeслава Казанэцкага прэзідэнта горада Беластока атрымаў Уладзімір Паўлючук, родам з Рыбалаў, за кніжку „**Judasz**”. Героем кніжкі з'яўляецца малады хлопец Сашка менавіта з вёскі... Камень — адзін з апосталаў у прарока Ілы. Дваццаць гадоў раней, у 1983 г., Уладзімір Паўлючук набывае агульнапольскую вядомасць за кнігу «**Wierszalin. Reportaż o końcu świata**». Звычайна — неспадзяванае кола гісторыі. Пасля вайны з гэтай невялікай вёскі Камень праваслаўнымі святарамі стане некалькі стройных хлопцаў, якія славіліся сваімі прыгожымі спевамі, але таксама некаторыя з іх, на жаль, упісаліся ў гісторыі чалавечай спакусы з дрэва дабра і зла. Мае сябры з ваколіц Каменя распавядалі таксама пра алкагольныя фантазіі старых кавалераў з гэтай мясцовасці — проста жывая літаратура.

Але вяртаймася да нашага героя Ларыёна і да малявання, для чаго таксама патрэбныя фантазія, смакавітасць і радасць ад бачанага. І ўсё гэта выліваецца потым у запісаных пэндзлікамі колерах, вобразах, формах. У дзяцінстве ўсе малышы ўглядаюцца ў неба, прыжмурыўшы вочы, сонечныя прамені іграюць вясёлкай, а сіня-сіняе неба кліча да сябе ў бязмежна таямнічае падарожжа. А калі на ім з'яўляюцца хмары, ты проста там, на нізе, аж дрыжыш ад бачанага. Калі налятаюць на сябе аблокі ў выглядзе звяроў, рыцараў, людзей і ваюють аж да знікнення, расплываюцца ў нябеснасці. А на іх месца з'яўляюцца новыя арміі і плывуць раз ніжэй, то вышэй — але кудысьці спяшаць, каб прапасці. Нагледзеўшыся ўсяго гэтага, калі трапляеш у царкву і з дзіцячай цікаўнасцю назіраеш за святымі дзядзькамі, тады ніх са сваімі суровымі ці лагоднымі тварамі неяк становяцца табе знаёмымі. Ты ўзгадваеш тыя ж аблачынкі — так да іх падобныя. І калі ў царкве, таксама прыжмурыш вочы, то свята свечак задрыжыць і затанцуе як у Купальскую ноч, на святога Яна. Пах свечак, кадзіла, чалавечых целаў; колеры святла, ікон, райскіх варотаў, размаляванай столі, святочная вопратка бабуль. Тайнае і чалавечае разам. І званы, калі пачнуць біць, то канец тваім марам нябесным. Нагадваюць табе вярнуцца да пачуцця сваёй зямной грэшнасці. Прастора неба і святыні бачаная з зямлі дзіцячымі вачыма. Усё гэта пэўна адчуваў і малы Ларыён. Але калі глядзім на яго мастацтва, то мне здаецца, што Бацька-Бог даў яму ў дзяцінстве неверагодны падарунак — нябачную лесвіцу, па якой ён змалку залазіў на аблокі і плыў на іх, углядаючыся на прыгажосць колераў яго зямелькі вакол Каменя ці Курашава. Ад веснавога квітнення садоў да восеньскіх жоўтасцяей усё ўнізе гарэла і ззяла колерамі. Колерамі і кветкамі, якія потым дарыў, размалёўваючы сваімі ўяўленнямі сялянскія і гарадскія дамы фундатараў. Гэтых колераў, пахаў і смакаў паветра і прыроды не хапіла яму, відаць, падчас трынаццаці гадоў бадзяння па Сілезіі і Кракаве (1957-1970). І ён плыў дадому таксама на воблаках. Матыў вяртання блудняга сына. Невыпадкова ўспамінаюцца мне тут радкі з «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча з быліцы першай, гэтак званай інвакацыі:

„...Тым часам душу маю стужану перанясі ты
Да ўзгоркаў лясных, да зялёных лугоў травяністых...
...Да гэтых палёў самым розным збожжам маляваных
Пшаніцай залочаных, жытам найбольш пасрабраных...”

Выязджаў у свет быць рабочым Ларыёнам — вяртаецца мастаком Зэнкам. Чалавечае праабражэнне — знаёмы літаратурны сюжэт. Дасведчаны лёсам, з траўмаваным у шахце тварам і носам — без грошай, але з надзеяй малявання таго бачанага ў маладосці і незабытага. Упарадкаванай, прыроднай прыгажосці сялянскага народа. Прыгажосці, якой таксама патрабаваў зморан працай селянін ці гарадскі сяляна-рабочы. Патрабавалі эстэтыкі дзяцінства, спалучанай з канкрэтным выкарыстаннем колераў, каб умела закрыць пэўныя тэхнічныя недаробкі ці недахоп будаўнічых матэрыялаў. Менавіта так як размалёўваюць цэрквы, так Зэнэк Данілюк размалёўваў дамы. Ён іх менавіта размалёўваў, а не маляваў. Таму і маем мастацтва, а не толькі добрае рамяство. Тое, як у літаратурнай форме свет колераў Падляшша запісалі нашыя «белавежцы», то ў мастацкай форме пэндзлем зрабіў гэта Зэнэк. А размаляваныя ім дамы ў квартале Міленіюм у Гайнаўцы з выкарыстаннем беларускай арнаментыкі — гэта проста жамчужына дэкаратыўнага афармлення. Добра, што для беларускай літаратуры асобу Зэнка перанёс у адно са сваіх апавяданнаў не менш славуты пісьменнік Міхась Андрасюк.

На жаль, на гэтай жамчужыне не залежыць хіба гайнаўскім уладам, якія наракаюць, што турысты абмінаюць іхні горад і едуць далей у Белавежу, а арганізаваныя імі прамоцыі не прыносяць спадзяваных эфектаў. Здаецца мне, што гайнаўскія ўлады ад слова прамоцыя, так па-сялянску любяць толькі дзве першыя літары — пр... пр... пр... Для несялян тлумачу — так гучыць чалавечая каманда «стой, затрымайся» для каня, якім кіруе гаспадар. Даўно вядома, што культура, а ў тым ліку мастацтва, дае самыя трывалыя і распазнавальныя эфекты прамоцыі. Блёкі з арнаментамі Зэнка патрабуюць рэстаўрацыі, а не чакання, каб дождж і сонца зрабілі сваё. Менавіта гэта прыцягвае ўвагу турыстаў, а не кічаватыя зубры, якія страшаць сваёй безнадзейнасцю. У Беларускім музеі ў Гайнаўцы павінна быць асобная, пастаянная экспазіцыя з працамі Ларыёна — Зэнка Данілюка. А з Крынак, дзе зараз праце выстаўка гэтага мастака, арганізаваная фондам «Віла Сакрата», можа павінна яна адразу трапіць і ў блізкую яму Гайнаўку, у якой памёр за працай 25 верасня 2000 г. Не так даўно. І далей, каб марыць: выйшаўшы з музея, ідзем у адкрыты «Бар у Валодзі», які турысту прынясе таксама задавальненне. На матывах і ўзорах Зэнка добрыя дызайнеры маглі б распрацаваць упакоўкі для прадуктаў гайнаўскага малочнага завода. Усё можна, але трэба хацець. Асабліва, што ёсць людзі, якія збераглі памяць пра яго і ягонае мастацтва. І напэўна дапамогуць, калі ўлады горада і павета зварухнуцца з месца. У 2008 г. вядомая ў Польшчы і Еўропе мастацкая галерэя «Бяла» з Любліна выдала каталог-альбом аўтарства Яна Грыкі названы «Зэнэк». Ян Грыка — чалавек Гайнаўскай зямлі, будучы далёка ад свайго гнязда, зразумеў важнасць і патрэбу захавання памяці пра таленавітага мастака Зэнка — Ларыёна Данілюка. А для спадара Яна Грыкі мая падзяка за зробленае ім наступнымі словамі:

„Oto — Jan Gryka
w jego głowie
już książka o Zenku tyka
chaj sobie tyka
ta jego muzyka
a Hajnówka chutko
Zenka nam odtyka”

**Яўген ВАПА**

Больш пра самую выстаўку прац Зэнка ў Крынках, чытайце на старонцы 10.





# Асоба і свядомасць нацыі

Вось і закончыўся чарговы нобелеўскі тыдзень. Ужо доўгі час, штогод, ён трымае ў напрузе і надзеі даволі вялікую колькасць людзей розных краін. І ўсе мараць, каб іх зямляк атрымаў званне нобелеўскага лаўрэата. Бо яно яшчэ ў большай ступені чым іншыя званні належыць не толькі яго ўладальніку, але і цэламу народу. І з'яўляецца прадметам гонару ўсёй нацыі.

У гэтым спаборніцтве за Нобелеўскую прэмію няма бачнай перамогі. Затое тут кожны заўзятар, які хоць крыху цікавіцца гэтым працэсам, не толькі прыхільнік або антыпод канкрэтнага прэтэндэнта на Нобелеўскую прэмію, але і кваліфікаваны суддзя, ад якога нічога не залежыць, але які мае кожны раз сваё ўстойлівае меркаванне пра тое, ці насамрэч гэтым разам нобелеўская камісія хоць прыблізна выканала запавет нябожчыка Альфрэда.

Беларусы таксама ўжо не першы раз уважліва і з надзеяй сочаць за гэтым закулісным шоў. Такія намінацыі як фізіка, хімія ці медыцына нас мала цікавяць. Дастаткова зайсці ў хоць якую неспецыялізаваную паліклініку, каб зразумець, што даваць нам узнагароды ў галіне медыцыны, гэта здзек над медыцынай. Ну а самамэта камерцыйнага набору студэнтаў з Азіі ў беларускія ВНУ перакрэслівае ўсе надзеі на развіццё сапраўднай навукі і яскрава паказвае, якое да яе ў нашага кіраўніцтва стаўленне. Таму калі ў Беларусі ўзнікне геній-самародак фізік, то яго або затопчуць па месцы працы, або ён атрымае прэстыжную ўзнагароду ў якасці грамадзяніна другой краіны.

Іншая справа літаратура, або прэмія міру. Тут мы ўжо не першы год фігуруем. У першай намінацыі нас прадстаўляла пісьменніца Святлана Алексіевіч. У другой праваабаронца, і таксама пісьменнік Алесь Бяляцкі. Людзі гэта даволі вядомыя. Калі ў гуглі набраць па-беларуску слова Святлана, то першым працягам вылазіць надпіс Алексіевіч. Ну а калі набраць Алесь, то як працяг бачым слова Бяляцкі. Зрэшты, калі слова Алесь набраць пераключыўшыся на рускую мову, або па-англійску, то працягам усё адно будзе Бяляцкі.

Іншая справа з Алексіевіч, якая піша па-руску, а жыве ў Еўропе. У рускай і англійскай версіях яе апярэджваюць другія Святланы. Вось і ў бурных дыскусіях на сацыяльных сетках, якія разгарнуліся вакол яе кандыдатуры, найбольш абмяркоўвалі моўны аспект. Ці можа рускамоўны аўтар прадстаўляць беларускую літаратуру і, адпаведна, культуру? І вельмі багата рэспандэнтаў сказалі, што не. Маўляў, гэта будзе толькі яе асабістая прэмія. Калі будзе. Мажліва, яна як асоба яе заслугоўвае сваім талентам і працавітасцю. Але мы, нацыя, не хочам лічыць гэтую прэмію сваёй, бо нам трэба не беларуская прапіска, а беларуская творчасць.

Зусім іншы характар набыло абмеркаванне кандыдатуры Бяляцкага. Тут пераважала думка, што калі нобелеўскі камітэт не дасць гэтую прэмію беларускаму праваабаронцу, то гэта недасведчанасць самога камітэта. Бо каго ж тады ўзнагароджваць, як не Бяляцкага!

Як не парадаксальна гэта гучыць, але на гэтым прыкладзе бачна, што беларусы, прынамсі актыўная частка, пасля незразумелага перапынку зноў пачынаюць заяўляць пра сябе як пра самадастатковую, цалкам сфармаваную старадаўнюю нацыю. Мы ўжо не цешымся як дзеці сусветнаму прызнанню тых прадстаўнікоў свайго народа, да якіх мае заўвагі. І не шукаем адабрэння і пахвалы іншых, як школьнікі сярэдніх класаў. Мы ўжо самі сабе надаём права даваць высокую адзнаку тым, каго хочам узвялічыць. А калі хтосьці іншы іх недастаткова заўважыў, то гэта праблема кагосьці, а не наша. Мы абыдземся і без Нобелеўскай прэміі. Але не абыдземся без Бяляцкіх. Да нас зноў дайшло, што Бацькаўшчына гэта не толькі тэрыторыя, як думаюць захопнікі і марыянеткавыя рэжымы, але і сума подзвігаў і здзяйсненняў лепшых прадстаўнікоў нашага народа, перамножаная на нацыянальную свядомасць.

Гэтым годам беларусы Нобелеўскай прэміі зноў не атрымалі. Але мы, беларуская нацыя, сваю ўзнагароду Алесю Бяляцкаму ўжо далі. Мы яго дзейнасць і яго ахвяру ацанілі належным чынам. Ну а нобелеўскі камітэт яшчэ не згубіў апошняга шанцу рэабілітавацца ў нашых вачах. Пачакаем наступнага года.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Вялікія, маленькія, дробязныя



Якая ж складаная прырода чалавека! З аднаго боку, кожны гатовы да любога шаленства, абы вылучыцца сярод іншых. З іншага боку, адчувае сябе больш бяспечна ў ананімнай чалавечай грамадзе. Мабыць, гэтае пекла крайнасцей, што караніцца ў кожным з нас, з'яўляецца рухаючай сілай развіцця чалавечай цывілізацыі. І ў мінулым, і ў сучаснасці. Альбо крыніцай паўтаральных паражэнняў і падзенняў. На маю думку, аднак, параза і перамога маюць агульны назоўнік — імкненне да неўміручасці. Альбо з'яўляюцца супрацівам непазбежнай смерці. Ідэю на неўміручасць, і я мог бы дадаць, што неацэнную, стагоддзі таму меў адзін Герастрат, ліхі шавец, апантаны вечнай славай. Для яе падпаліў храм Артэміды ў Эфесе, які лічыцца адным з сямі цудаў свету. Паказаў пік глупства, але чалавецтва памятае пра яго. Ну, што ж, Кнігі рэкордаў Гінеса тады не было. Добра хоць, што маем яе сёння. Таму што такіх малых шаўцоў з вялікім эга, якім быў Герастрат, сярод нас усё больш і больш. Хіба гэта не падстава для турботы аб нашай цывілізацыі? Хтосьці дaeцца быць пахаваным жыўцом у зямлю, хто яшчэ здрабняе ў парашок сваю машыну і есць яго. На практыцы мяжа чалавечага вар'яцтва бясконцая. Вар'яцтва і... уяўлення. А, можа, гэта два неразрыўныя бакі чалавечай прыроды? На шчасце, тая частка Кнігі рэкордаў, якая трактуе аб вар'яцтве, гэта яе ненайважнейшая частка.

Несумненна, да раздзела (талковых) запісаў у Кнізе рэкордаў Гінеса трапіць 450-тонны самазвал БелАЗ-75710, які сканструявалі беларускія інжынеры. Гэты аўтамабіль на самой справе гіганцкі — найбуйнейшы з найбуйнейшых. У яго кузаве змесціцца дзевяць 48-тонных вагонаў агульнай даўжыні 200 метраў. Дзейнічае на ўяўленне! І ў той жа час даказвае, што ў Беларусі хапае інжынераў з ўяўленнем.

Яшчэ адным шэдэўрам інжынернага майстэрства з'яўляюцца дроны — беспілотныя лятальныя апараты. Кіруюць імі дыстанцыйна з адлегласці ў сотні і нават тысячы кіламетраў. Калі націснуць на кнопку, яны могуць абстраляць або збамбіць ворага, знайсці скрытыя агнявыя пазіцыі. Самалёцік каштуе, дробязь, некалькі мільёнаў долараў, а тыя найбольш тэхналагічна прасунутыя — нават пару дзесяткаў. Аб кошце, каб падрыхтаваць іх для масавай вытворчасці (даследаванні, вопыт і доўгатэрміновая праца соцень спецыялістаў з розных абласцей) лепш не ведаць. Гэтыя шэдэўры найвышэйшай якасці — вытворчасці Ізраіля і ЗША. Гэтыя дзяржавы выкарыстоўваюць іх для барацьбы з тэрарызмам, шпіянажам варожых краін, для кантралявання сваіх уласных меж і паветранай прасторы, і нават коркаў на дарогах. Беларусь не застаецца ззаду. Беспілотны самалёт — Бусел-М, створаны беларускімі канструктарамі, вельмі станоўча ацэнены спецыялістамі ў гэтай галіне. Хваляць яго за тэхнічную прадукцыйнасць і інавацыйныя рашэнні. Яго аператыўныя магчымасці на мінулым тыдні тэставала беларуская міліцыя, якая вядзе вайну з самагоншчыкамі. Самалёт праверыўся! Абсталяваны інфрачырвонымі камерамі Бусел-М выявіў у закінутых гаспадарчых будынках крыніцу цяпла. Аказалася, што пад покрывам ночы там гналі самагонку. Мабыць гэта і нічога, але калі верыць дакладнай статыстыцы, згодна з якой самагонаварэннем займаецца каля 15 адсоткаў дарослых жыхароў краіны, а ў чатыры разы большы працэнт карыстаецца прадуктамі антыдзяржаўнага гандлю алкагольнымі напоямі, гэта становіцца сур'ёзным пытаннем. Калі ўлада выпускае з рук нейкую манаполію, гэта значыць, што слабее яна. І чым больш слабее, тым больш п'юць самагонку грамадзяне. І гэта неабавязковая прыява сацыяльнага падзення. Бывае, што гэта несвядомы спосаб выражэння апазіцыі да ўлады. А яна, аднак, усведамляе гэта. Так што, калі камусьці заляціць праз адкрытае акно невялікі самалёцік, хай не здзіўляецца — з ініцыятывы ўлады працы па мініяцюрызацыі «буслоў» працягваюцца. Верагодна, яны будуць аснашчаны суперчулымі алкаголемерамі. Бясшумна пралятаючы над дамамі, зарэгіструюць нясвежы пах з рота кожнага грамадзяніна. Больш за тое, зафіксуюць яго імя, прозвішча, і, на ўсякі выпадак, імя па бацьку. Сфатаграфуюць яго п'яную пысу і, для поўнасці, фізіяномію жонкі, дзяцей і суседзяў. Таму што той, хто п'е самагонку — вораг улады. І такім чынам малое становіцца вялікім, альбо, гледзячы з іншага боку — дробязным. Калі хто-небудзь думае інакш, хай пільнуецца. А раптам прыедзе БелАЗ-75710 і ўсё выраўнуе.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Два Усходы

Калі ў апошні дзень беластоцкага «Усходу культуры — Іншага вымярэння» працягваліся яшчэ фестывальныя паказы, у тым ліку чаканая прэм'ера фестывальнай падзеі на адкрытым паветры — «Антыгоны» Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі, у адным з рэстаранаў улады Беластока на хуткую руку падводзілі вынікі піцідзённага мерапрыемства. Як не трымаў у сакрэце ў гутарцы са мной прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі, гэта была проста падзяка «спонсарам» (дзвюм асобам), то-бок, прадстаўнікам Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны і Нацыянальнага цэнтра культуры (НЦК). Праз чатыры з паловай гадзіны я ўбачыў іх як на «Антыгоне», так і на сустрэчы ў тэатры пасля прэм'еры (верагодна, не ў спешцы). Ані на спектаклі, ані пазней я не бачыў прэзідэнта. Але гэта не так важна.

«Усход культуры» пад рознымі лозунгамі праходзіў у трох гарадах усходняй Польшчы: Жэшаве, Беластоку і Любліне. Перад беластоцкім выпускам Казімеж Манкевіч, намеснік дырэктара НЦК адзначыў: «Мэтай гэтага праекта з'яўляецца супрацоўніцтва і інтэграцыя польскіх гарадоў Усходняй Польшчы: Беластока, Жэшава і Любліна з краінамі-ўдзельніцамі гэтак званага Усходняга партнёрства».

Так атрымалася, што ў мяне была магчымасць назіраць і параўноўваць фестывалі ў Любліне і Беластоку. У мяне склалася ўражанне, што беластоцкія арганізатары — Бюро культуры Гарадской управы (БК ГУ) і Беластоцкі цэнтр культуры (БЦК) — разглядалі ідэю міністра культуры абы адвязацца. Шраг праектаў не мела ніякага дачынення да формулы «Усходу культуры». Так было са спектаклем «Таксі-Падляшша», экскурсіяй па Беластоцкім шляху жанчын, фіналам агульнапольскага конкурсу па графіці ці атракцыёнамі тэатра «Аркадыя для наймалодшых». Цэласць здавалася быць выпадкова пазбіранымі падзеямі, часам такімі, што і так маглі адбывацца ў Беластоку ў той час, а часам і праз дапісанне імён мастакоў з краін-удзельніц УП, каб апраўдаць мерапрыемства формулай «Усходу культуры» (напрыклад, паказ моды дызайнеркай Анастасіяй Мірановіч з Мінска). Выбівалі СМІ ў Беластоку татара-мусульманскую тэму, таму што яна была адметнай рысай другой часткі фестывальнага лозунга «Іншае вымярэнне», фестывалю, на які абапіраўся мясцовы «Усход культуры». Дарэчы, у мяне склалася ўражанне, што БЦК і БК ГУ не ад пачатку намерваліся да стварэння новага значэння, а толькі з дапамогай вялікіх грошай ад НЦК выціснуць з-пад «Іншага вымярэння» ўсё, што магчыма, каб толькі апраўдаць прысутнасць ва «Усходзе культуры» працягваючайся за апошнія некалькі гадоў фірменнай падзеі БЦК.

Усходняе партнёрства ў беластоцкім маштабе фестывалю гэта было толькі некалькі імёнаў (несумненна, вартых) мастакоў з Беларуссю ды беларушчынай Беласточчыны звязаных, ды з паасобнымі — здавалася — выпадкова абранымі прэзентацыямі з абмежаваннем толькі дыскрымінанта Беларусь, беларускасць (але ўжо без: малдаўскасць, грузінскасць, азерскасць, армянскасць, украінскасць). На маю думку, сапраўды ў ідэю «Усходу культуры» як новай якасці ўпісаліся «Антыгона» беластоцкага Драматычнага тэатра, прэзентацыя пераможцаў узнагароды Казіміра Малевіча ў «Арсенале» і рэзідэнтаў гэтай галерэі з Беларусі, Грузіі і Украіны, і танцавальнае прадстаўленне «Прыгажосць жыцця».

У Любліне ў мяне склалася ўражанне, што да «Усходу культуры» як ідэі прыступілі там з размахам і з добра прадуманай лагістыкай, каб гэты фестываль на самой справе ў першую чаргу звязваў сталіцу Любліншчыны з краінамі-ўдзельніцамі УП у культурным плане. Тут быў ён часткай Кангрэса культуры УП і Кангрэса культурных ініцыятыў Усходняй Еўропы. Праходзіў пад лозунгам «Інтэграцыі-Медыяцыі» і ахапіў не толькі асобныя падзеі, але складаючыеся ў блокі цэласці, як напр. Трыенале ўкраінскага сучаснага мастацтва (выстава больш за 50 сучасных мастакоў з усёй Украіны), прэзентацыя дасягненняў беларускіх выканаўцаў сучаснага танца: «ПлаСтформа», цыкл канцэртаў «Усходнія гукі» (шырэй невядомыя ў Польшчы музычныя з'явы краін-удзельніц УП), «EstStreet» (выстава вулічнай фатаграфіі, якая паказвае вобраз гарадоў краін-удзельніц УП) ці паказ пефоменсу і арт-інсталяцый мастакоў-рэзідэнтаў з УП у рамках «Connected by the border».

Калі ў час зарана спыненага беластоцкага выдання «Усходу культуры» я размаўляў з прадстаўнікамі Міністэрства культуры і НЦК, пачуў, што абедзве ўстановы гатовы фінансаваць «Усход культуры» ў наступным годзе ў трох гарадах, так, як і сёлета. Не хавалі, аднак, таго, што беластоцкія арганізатары павінны разгледзець пытанне аб змене формулы, каб — як сказалі — была яна бліжэйшая да арыгінальнай ідэі, значыць, збліжэння краін-удзельніц УП, а найлепш, каб прабавалі стварыць новыя, агульныя каштоўнасці як новыя, супольныя каштоўнасці для Еўропы. Бліжэйшая да сёлетняга люблінскага «Усходу культуры»? Абедзве начальніцы — БК ГУ і БЦК — былі прысутны ў Любліне.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Верны Бацькаўшчыне

У гэтым годзе наш заслужаны беларускі жывапісец і народны паэт Анатоль Краўчук з Крывой атрымаў польска-беларускі ордэн «За вернасць Бацькаўшчыне». У дзевяностагадовым узросце ўзнагародзіў яго міжнародны капітул створаны пры Музеі малой айчыны ў Студзіводах, з якім спадар Анатоль трымае цеснае супрацоўніцтва. Там арганізаваліся часовыя і дзейнічае пастаянная выстаўка яго карцін. Працы Анатоля Краўчука паказваліся таксама ў Цэнтры Заменгофа ў Беластоку, у Цэнтры прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, у Брэсце і Пружанах у Рэспубліцы Беларусь. Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы выдаў буклет з рэпрадукцыямі карцін і інфармацыяй аб творчасці і жыцці Анатоля Краўчука, прымеркаваны да персанальнай выставы, якая 5 кастрычніка адкрылася ў Гайнаўскім белмузеі. Мерапрыемства адбылося ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», а буклет папоўніў «Слоўнік беларускіх мастакоў» — вялікі каталог, які ад некалькіх гадоў ствараецца белмузеем.

— Малая Бацькаўшчына Анатоля Краўчука — Крывая і наваколле, дзе ён нарадзіўся, узрастаў і правёў асноўную частку свайго жыцця — заўсёды была яму найважнейшай і давала натхненне да творчасці, малявання і пісання вершаў. Спадар Анатоль любіць жыццё і ва ўсім знаходзіць радасць. Яго карціны адзначаюцца вялікай цеплынёй, якой надзелены і сам мастак. Гэтую цеплыню перадае ён іншым, якія яго акружаюць. Калі вёў ён у нашым музеі майстар-класы, то было відаць, што стараецца перадаць іншым тое, што найлепшае ў яго сэрцы. На сваіх карцінах паказвае тое, што яму самае блізкае — падляшскую прыроду і вёску, — заявіў старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік, член капітула ордэна «За вернасць Бацькаўшчыне». — Мне вельмі падабаецца жывапіс Анатоля Краўчука, які выканаў сотні прац. Я называю яго мастаком з вялікай літарай «М», перадусім з-за вялікай актыўнасці, якую праявіў у жывапісе ў апошніх гадах, у амаль дзевяностагадовым узросце. У гэтым годзе ладзіцца другая вялікая персанальная выстава прац Анатоля Краўчука, якія ў асноўным паўсталі ў апошніх гадах.

Ужо раней Дарафей Фіёнік заўважыў талент жывапісца Анатоля Краўчука, які ўдала пераліваў на палотны сваё адчуванне акружаючай яго Радзімы. У асноўным выконваў ён алейныя карціны. Гэта Дарафей Фіёнік быў ініцыятарам адкрывання на шырэйшы свет жывапісу незвычайнага жыхара Крывой. Можна сказаць, што Студзіводскі музей узяў патранат над творчасцю Анатоля Краўчука і арганізаваў персанальныя выставы жывапісу нашага мастака з Бельшчыны ў Польшчы. У выніку захадаў Дарафея Фіёніка ў Музеі мастацтва ў Брэсце была наладжана выстава прац Анатоля Краўчука і яго настаўніка малявання з 1940 года Міколы Чурабы пад загалоўкам «Ад сэрца да сэрца». Пасля карціны спадара Анатоля паказваліся яшчэ ў Пружанах.

— Мне карціны Анатоля Краўчука вельмі падабаюцца. Мастак у сваіх пейзажах перадае індывідуальнае бачанне свету, пераказвае інфармацыю пра сваю Крывую — яго Бацькаўшчыну, куды вярнуўся праз гады. На выставе карціны размешчаны паводле чатырох пор года. Паказваецца многа прац выкананых Анатолем Краўчуком у апошніх гадах. Нават ёсць работа з 2013 года, — заявіла Агнешка Ціханюк, гісторык мастацтва, якая займалася падрыхтоўкай выставы ў белмузеі.

Выставу адкрыў дырэктар музея Тамаш Ціханюк. На мерапрыемства Анатоль Краўчук прыбыў з жонкай Вольгай, дзяцьмі і сямейнікамі. Прыйшло таксама шмат маладых асоб, чаму мастак быў вельмі рады. Стаў ён тлумачыць моладзі на што трэба звяртаць асаблівую ўвагу ў час малявання.

— Анатоль Краўчук успрымае акружаючы яго свет са сваёй уражлівасцю, крыху ўпрыгожваючы яго. Колеры — вельмі важны атрыбут яго жывапісу, хаця яны крыху ненатуральныя. Самыя цікавыя карціны — з вясковымі краявідамі і конямі, якіх ён вельмі любіць маляваць. Бачым коней на шматлікіх карцінах. Гэта ўдалыя працы. На вялікую пахвалу заслугоўвае тое, што малюе ён яшчэ ў так сталым узросце. Я асабіста не ведаю іншых жывапісцаў, якія малявалі б, маючы пад дзевяноста гадоў, — сказаў гайнаўскі мастак Віктар Кабац.

Мастаку-фатографу Уладзіславу Завадскаму найбольш спадабаліся партрэты і шкадаваўся, што ён не выконваў іх больш, напрыклад, вяскоўцам.

— Карціны спадара Анатоля прасякнутыя жыццёвым аптымізмам. Як паэт, бачыў ён акружаючую яго рэчаіснасць больш ідэальнай, чым яна была, і такой паказваў на сваіх працах, — гаварыла Альжбета Фіёнік.

На карцінах Анатоля Краўчука можам убачыць перадусім яго малую Бацькаўшчыну, выгляд сяла, з дамамі, крыжамі і дабыткам. Мастак любіў маляваць коней запрэжаных у вазы, сані або працуючых на палетках. Вялікае ўражанне на сабраных зрабілі таксама прыгожыя краявіды і дэталі прыроды ў розныя поры года.

— Я бадзяўся па свеце і на Радзіму вельмі цягнула, бо мая Бацькаўшчына, гэта маё здароўе. У жыцці самае важнае — любоў да жыцця. Калі нават яно вельмі цяжкае, трэба яго любіць, — лічыць жывапісец Анатоль Краўчук з Крывой. — Я ў дзяцінстве вельмі любіў рысаваць і стараўся адлюстраваць на паперы тое, што бачыў у наваколлі. Без малявання і цяпер не магу жыць. У час гэтага занятку я адпачываю. Я маляваў заўсёды нешта ўзятае з жыцця, нашу прыроду і цікавыя моманты ў розныя поры года.

— Палотны Анатоля Краўчука жывуць хвілінай, кожнай парой года, пахам атавы, снапом жыта і спакойным цячэннем рэк... Пэндзлем стварыў жывапісец настрой меланхоліі асенняга краявіду, паказаў дэталі архітэктуры драўляных хатак роднай вёскі, дзякуючы якім малая Радзіма мастака стала лёгкараспазнавальнай, — з вялікай цікаўнасцю глядзіць на карціны мастака з Крывой Івона Марціновіч-Якімюк, гісторык мастацтва.

Анатоль Краўчук нарадзіўся ў 1923 годзе. Пачаў рысаваць яшчэ будучы дзіцём. Яго здольнасці заўважыла настаўніца, якая памагала разгортваць ягоны талент. Малога Толіка менш цікавілі гульні з равеснікамі, а вольны час стараўся адводзіць на рысаванне. Пры савецкай уладзе, у 1940 годзе, Анатоль Краўчук трапіў на курсы для здольнай моладзі, якія вёў у Беластоку мастак з Беларусі Мікола Чураба. Пасля ўдзельнікаў абучэння завезлі ў Мінск, дзе паказалі ім музеі, якія выклікалі вялікае ўражанне на хлопцу з Крывой. Атрымаў ён прапанову вучыцца ў Мастацкім інстытуце ў Віцебску, але не пакарыстаўся нагодай, бо мусіў дапамагаць дома. У час нямецкай акупацыі спадар Анатоль пабываў на прымусовых работах ва Усходняй Прусіі, а пасля вызвалення ўзялі яго ў Савецкую Армію і быў вывезены на Палессе. Там пазнаёміўся з Вольгай Корбут і ажаніўся з ёю (у сямідзесятых гадах жончына пляменніца, з такім самым іменем і прозвішчам, Вольга Корбут, стала вядомай беларускай гімнасткай, выступала як прадстаўнік Савецкага Саюза, была чатырохразовай алімпійскай чэмпіёнкай і лічыцца адной з самых лепшых гімнастак усіх часоў). Спадару Анатолю прыйшлося нават працаваць у тайзе і толькі ў 1956 годзе з сям'ёй вярнуўся ў Польшчу, у сваю родную Крывую, дзе стаў жыць і надалей маляваць. Яго карціны трапілі ў многія хаты аднавяскоўцаў і вісяць там па сённяшні дзень. Анатоль Краўчук з'яўляецца членам Саюза мастакоў-аматараў. Свае карціны паказваў таксама на калектыўных выставах, арганізаваных гэтым саюзам. Сёлета карціны Анатоля Краўчука можна было ўбачыць на персанальнай выставе ў Цэнтры прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, пры нагодзе яго ўзнагароджання польска-беларускім ордэнам «За вернасць Бацькаўшчыне». Атрымліваў ён таксама вылучэнні на Ваяводскіх аглядах аматарскай мастацкай творчасці.

— Жывапіс — складанае мастацтва. Эскізы трэба рабіць хутка. Але каб дапрацаваць алейную карціну, намаляваную з дэталямі, трэба многа напрацавацца, — паўтарае Анатоль Краўчук. — Думаў ужо пакінуць маляванне, але не магу гэта зрабіць і хіба покі яшчэ трымаю пэндзаль у руках, буду маляваць.

Унучка Анатоля Краўчука, Эліза Паўляк, выпускніца Мастацкага ліцэя ў Супраслі і педагагічнай спецыяльнасці з ухілам на мастацтва на Падляшскай акадэміі ў Седльцах, якая сама таксама малюе і займаецца графікай, хваліць свайго дзядулю за яго мастацкі ўздым у апошнім часе. Лічыць яна, што дзядуля Анатоль менавіта ў сталым узросце стаў больш вопытна глядзець на акружаючы свет, удала пераносіць гэта на палатно і тэхнічна стаў яшчэ лепш маляваць, звяртаючы вялікую ўвагу на колеры і больш прафесійна пакідаючы сляды пэндзля на карцінах. Анатоль Краўчук пісаў таксама вершы на дыялекце з Крывой і на польскай мове. Некаторыя з іх былі выдадзены Студзіводскім музеем у альбоме з жывапісам Анатоля Краўчука.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



Анатоль Краўчук з жонкай Вольгай у час адкрыцця выставы

**— Я бадзяўся па свеце і на Радзіму вельмі цягнула, бо мая Бацькаўшчына, гэта маё здароўе. У жыцці самае важнае — любоў да жыцця. Калі нават яно вельмі цяжкае, трэба яго любіць, — лічыць наш беларускі мастак Анатоль Краўчук з Крывой.**



# Экскурсія настаўнікаў па Бельшчыне

Хто як хто, але настаўнікі любяць ездзіць на экскурсіі. А ўжо асабліва тыя, хто на пенсіі. Актыўна працуе секцыя пенсіянераў пры Праўленні аддзела Саюза польскіх настаўнікаў у Гайнаўцы, якой кіруе Ірэна Юрчук. Ладзіць яна шмат культурна-забаўляльных мерапрыемстваў ды краязнаўчых экскурсій.

8 кастрычніка г.г. арганізавалі экскурсію ў вялікае і самае сучаснае, з новаўвядзеннямі, прадпрыемства фірмы „Swedspan Polska Sp. z o. o.” у Кошках Арлянскай гміны (зараз у ім працуе 250 чалавек). Яно выпускае трывалыя, лёгкія і прыязныя для асяроддзя ультратонкія драўнянавалакністыя пліты UT-HDF высокай шчыльнасці, якія канцэрнам IKEA выкарыстоўваюцца для вырабу мэблі, лёгкіх канструкцый. Прадпрыемствы вышэйзгаданай фірмы працуюць у Літве, Славакіі, Францыі, Швецыі і Польшчы.

Тут экскурсантаў прынялі цёпла і сардэчна. Частавалі кавай і гарбатай ды салодкім пячэннем з шакаладам. Распавялі пра само прадпрыемства ды пра яго значэнне для жыхароў Арлянскай гміны ды Бельскага павета. Фірма адрамантавала святліцу ў Кошках за кошт 90 тысяч злотых і купіла камп'ю-





тары для школы ў Орлі за 50 тысяч злотых. Калі госці выходзілі, ім уручылі фірменныя сувеніры.

Будучы ў Арлянскай гміне настаўнікі-пенсіянеры наведалі рамантаваную сінагогу ў Орлі. Пра яе лёс цікава расказала мясцовая жыхарка Ніна Нестаровіч.

Затым педагогі паехалі ў школу пісання ікон у Бельску-Падляшскім і тут звярнуліся са шматлікімі пытаннямі да студэнта апошняга курса, які іх прывітаў і расказаў пра навучанне іканапісцаў. Са школы экскурсанты адправіліся пешшу ў былы кляштар кармелітаў і пазнаёміліся з яго гісторыяй. Гэты манаскі ордэн быў заснаваны ў Палесціне на гары Кармель у часы крыжовых паходаў.

Па дарозе ў Гайнаўку ўсе заехалі ў Новае Беразова да Сцяпана Чабая, які займаецца гадоўляй афрыканскіх страўсаў ды прапануе турыстам тры старыя хаты з колішнім абсталяваннем. Тут усё было цікавае.

Варта адзначыць, што правадніцай экскурсіі была Ніна Зін з Гайнаўкі. Усе былі ёю вельмі задаволеныя — яна столькі ж цікавага пра наш рэгіён расказала. Паездкай таксама. Будуць яе доўга ўспамінаць.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



Кладкі на Нарве каля Ванева

■ Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Таемная **Нарва**

Белавежскі нацыянальны парк здаецца становіцца стандартам прыродаахоўных мер у сусветным маштабе. Асабліва ж здаецца мне, што той „сусвет” з'яўляецца па сутнасці нашым тутэйшым асабістым космасам, мацаваным страсцямі, кранаючымі яго пушчанскіх межаў, не толькі тапаграфічных, але і ўтылітарных. Магчыма дзеецца так таму, што прыродаахоўная ідэя, прывязаная да нашай пушчы, жыве ўжо шмат гадоў і прыжылася нам па звычайнай прывычцы...

Прырода, аднак, гэта не гета, абмежаванае адно да старога лесу. Гэта таксама і іншыя кампаненты таго асяроддзя, з якім прыходзіцца нам мець дачыненне. У біблейскім паданні аб стварэнні свету найперш менавіта з'яўляецца асяроддзе, у якім будзе існаваць усё апошняе. У першы дзень з'яўляецца святло, у другі дзень галоўным аб'ектам з'яўляецца вада, гэтак жа і ў трэці дзень...

Пра ахову водных рэсурсаў доўгі час не было ў нас хвалявання. Было нават наадварот: вялікія цывілізацыйныя праекты ў нашай частцы свету прадбачвалі нават высцсненне гэтай асновы ўсялякага жыцця. У недалёкім замежжы былі планы асушкі палескіх балот, такія ж праекты капіраваліся і ў Польшчу, у тым ліку кранаючыя высцякаючую з акраін Палесся Нарву. Але вось вада, а дакладней — яе занядбанне, неўзабаве ацверазіла „прагрэсіўныя” галовы і цяпер на парадак дня становіцца пытанне захавання ўсяго таго багацця, што апраменіла свет цягам трэцяга і чарговых дзён Тварэння.

Нарва паміж Суражам і Харошчай цячэ некалькімі рэчышчамі па шырокай балоцістай раўніне. Былі калісь праекты пракапання там адной простай канавы для сцёку вады і асушкі соцень гектараў для агракультурнага выкарыстання. Такое рэчышча было пракапана ад Тыкоціна да Жэндзянаў, але аказалася, што гэты праект нясе больш шкоды чым карысці і ў 1984 годзе меліярацыйныя працы былі спынены, а ўжо годам пазней быў там заснаваны Нарваўскі ландшафтны парк. У 1996 годзе ўнікальнае рэчышча Нарвы паміж Суражам і Жэндзянамі, якое атрымала высакалётную мянушку Польскай Амазоніі, было ўзведзена ў ранг Нарваўскага нацыянальнага парку. Ён усяго ў пятнаццаці кіламетрах ад цэнтра Беластока...

Зараз за Бацютамі распасціраецца балотнішча Нарвы. Побач шашы, што з Беластока ў Саколы, водная тафля прыкрытая ад вонкавага вока балотнай раслліннасцю. Мост на Нарве акурат у ходзе карэннай змены, а дакладней кажучы, ён раскіданы, вызваляючы месца для новага, будаванага ўжо верагодна за кошт прыродаахоўных фондаў. За мостам, прыхаваная за невысокай градай вёска Бакіны, якая ў 1822 годзе стала была ўласнасцю аднаго з класікаў польскай паэзіі, графа Зыгмунта Красінскага, якога маці была з роду Радзівілаў, што былі калісь уладарылі ў гэтай частцы Падляшша. Даведнік Лапскай гміны: „Spis ludności z dnia 30.09.1921 wykazał w tej miejscowości 396 osób mieszkających w 60 budynkach i 45 osób zamieszkujących 3 budynki należące do folwarku. Wśród mieszkańców były trzy osoby narodowości białoruskiej, pozostali to Polacy”.

З аўтобуса злажу ў Старой Лупянцы. Даведнік: „W czasie potopu szwedzkiego, 4 i 5 października 1656 r., pod Łupianką stały wojska hetmana Wincentego Gosiewskiego. Z tego miejsca Wincenty Gosiewski wydał uniwersał do mieszkańców Prus Książęcych, grożąc, iż jeśli ktoś zostanie przy Szwedach, jego dobra zostaną „nawiedzone ogniem i mieczem”. „1528 Parafeia Płońskaia — Sełо Staraia Łupianka”. Zapisy nazwy w różnych latach były niejednakowe: Staraia Łupianka (1528 r.), Łupianka Starawieś (1544 r.), Łupianka antiqua (1569 r.; przymiotnik antiquus stary'), Łupianka Antiqua (1580 r.), Łupianka stara (1592 r.), Łupianka-Stara (1884 r.), Łupianka Stara (1921 r.), Stara Łupianka (1973 r.). W r. 1827, w tej szlacheckiej wsi, mieszkało 460 osób w 71 domach. W czasach Królestwa Polskiego wieś nosiła nazwę Łopianka Stara”. Побач шашы вялікі школьны будынак, аднак прысутнасці навучэнцаў там не відаць.

Праходжу каля вёскі Енькі. Даведнік Саколаўскай гміны: „W roku 1921 naliczono tu 70 budynków z przeznaczeniem mieszkalnym oraz 494 mieszkańców (236 mężczyzn i 258 kobiet). Narodowość polską podały 493 osoby, a 1 białoruską”. Гэта ўсё яшчэ было памежжа між Усходам і Захадам, але не толькі. Пралягала там таксама саслоўнае памежжа, бо Старая Лупянка лічылася вёскай шляхецкай, калі суседнія Бакіны, Енькі ці Ванева былі ўжо вёскамі *włościańskimi, kmiecimi*. А саслоўная мяжа была вельмі істотная; Зыгмунт Глогер: „Z wygaśnięciem rodu Jagiellońskiego włościanie od woli dziedziców zawiśli. Dopiero w r. 1768 szlachta sama uchwałą sejmową odebrała sobie prawo życia i śmierci nad włościanami i nawet w tym samym roku ustanowiono karę śmierci na jednego dziedzica za zabicie chłopa...”.

Заходжу ў Ванева. Даведнік: „Nazwa Waniewo pochodzi od imienia Wania. Nazwa miejscowości po raz pierwszy pojawiła się w przekazach z 1447 r. Równocześnie wymienia się w ówczesnych dokumentach istnienie zamku i mostu. 1501 — król Aleksander Jagiellończyk nadał Waniewo wraz z małą włością Mikołajowi Radziwiłłowi, wojewodzie wileńskiemu. 20 czerwca 1510 r. król Polski i wielki książę litewski Zygmunt I Stary pozwolił Mikołajowi Radziwiłłowi osadzić miasto na prawie chełmińskim, a także pobierać myto na nowo zbudowanym moście przez rzekę Narew. Miejscowość nigdy nie rozwinęła się w ośrodek miejski, najprawdopodobniej ze względu na utratę znaczenia przeprawy na Narwi”. Адбылося гэта ў выніку змагання магнатаў — Радзівілаў з Гаштольдамі, якія ўзаемна знішчалі свае здабыткі; у выніку набрала значэння недалёкая Харошча Хадкевічаў. „W rejestrze z 1676 roku Waniewo występuje już jako wieś. W roku 1921 było tu 49 budynków z przeznaczeniem mieszkalnym oraz 320 mieszkańców (161 mężczyzn i 159 kobiet). Narodowość polską podało 295 osób, a żydowską 25”. З паўднёвага боку пляца, які калісь выконваў ролю гарадскога рынку, высіцца касцёл, пабудаваны на схіле XIX стагоддзя, у 1887 годзе. Ад пляца лагодны схіл вядзе да ракі Нарвы. У 1915 годзе расійскае войска было пабудавала насупраць Ванева драўляны мост, неўзабаве знішчаны наступаючай нямецкай артылерыяй. У 1944 годзе, у ходзе чарговых баёў, быў знішчаны тамашні касцёл, адбудаваны ў 1950 годзе.

Каля Ванева пабудавана сістэма кладак, якая дазваляе наведвальнікам Нарваўскага нацыянальнага парку „пахадзіць па вадзе”, а прымацаваныя да кладак невялікія паромы дазваляюць пераправіцца на другі бок Нарвы ў напрамку Сліўна. На паромах замацаваная картачка з цэннікам, аднак ні з аднаго ні з другога боку ракі не відаць каго, хто б абслугоўваў пераправу і спаганяў тыя цэны. Здаецца, што трэба пераправляцца там цераз Нарву саматужна, да таго ж бясплатна, працягваючы ўласнаручна лёгкія паромы прымацаванымі да іх жалезнымі ланцугамі. Назіральная вышка на беразе дазваляе любавацца панарамай рачной даліны.

Нарваўскі нацпарк адрозніваецца ад Белавежскага і тым, што ў Белавежскім ёсць адмысловы запаведнік з кватэрамі некаторых пражываючых у наваколлі звяроў. У Нарваўскім нацпарку можна ў прынцыпе назіраць адно за найбольш дзёрзкімі прадстаўнікамі балотнай флоры. Можна таксама паслухаць адгаласак кантактаў рыб ці жаб з вадой. Магчыма, што можна пачуць там і спевы птаства. Калісь-калісь быў гэта асноўны від музыкі, якім магло насалоджвацца ме-

працяг ☞11

# Юбілей Вольгі Грыцук - 90 гадоў

Пачну з верша. Гэты верш нядаўна мне даслаў выдатны наш паэт, даследчык беларускай культуры, краязнавец Сяргей Панізнік. Верш прысвечаны слаўнай беларусцы Вользе Грыцук з Канады. Эпіграфам верша служаць радкі Вольгі Грыцук з дому Дуброўскіх: „Мая радзіма — Дзісеншчына... І я не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю мову, на ўсё, што робіць чалавека чалавекам". А верш гучыць так:

*Жыла ў Дзісне з Дуброўскімі, Ластоўскімі,*
*Тут чула Жаўняровіча псалмы...*
*Дасюль Дзісна ні крыгамі, ні войскамі*
*Не змецена: тут Адзігітрыя і мы.*
*Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава*
*Схіляюцца чупрыны курганоў.*
*І сення ёй, Васільеўне, прыўкраснага*
*Тут вельмі многа для паромаў-сноў.*
*Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі,*
*Муры, капліцу помніла дзяўчо...*
*...Пранесліся нягоды — ураганамі*
*І пад спадзеў падстаўлена плячо.*
*Каханейка пякучае не стоміцца*
*Збіраць сляды дзяцінства ля Дзвіны...*
*Ёй здзейсніцца Дзісна! Вярба памоліцца,*
*Каб наша суайчынніца-патомніца*
*Прыйшла на фэст пад родныя званы.*



Вядома, прыйдзе спадарыня Вольга на фэст, на свой фэст юбілейны, на свой фэст вялікі, шчыры, светлы, беларускі — 29 кастрычніка ў яе дзень нараджэння — ёй спаўняецца 90 гадоў. І прыйдуць на фэст усе беларусы Канады, Амерыкі, Бельгіі, Германіі, ЗША, Польшчы, Англіі, Беларусі, каб павіншаваць яе з гэтым слаўным юбілеем. А хто на фэст не патрапіць, дык ён абавязкова знойдзе Вольгу Грыцук у канадскім горадзе Кінгстане, каб абняць яе і пажадаць здароўя і толькі здароўя, а таксама падзякаваць за ўсё добрае, што яна зрабіла за сваё жыццё і што працягвае рабіць для беларускай культуры, нягледзячы на свой вялікі ўзрост.

Лісты ад Вольгі Грыцук, якія атрымліваю з Канады, пазнаю адразу па прыгожым, роўненькім почырку. Адкрываю канверт і чытаю: „Пра Вашу кніжку „З Беластоцкай зямлі", якую выдала ў Беластоку Праграмная рада тыднёвіка „Ніва", я атрымала шмат добрых ацэнак і задавальнення ад беларусаў, для якіх я выслала Вашу кніжку. Доктар Вітаўт Кіпель з Нью-Ёрку прыслаў мне ліст, у якім піша, што шмат чытаў, але Ваша кніжка дапоўніла ягоныя веды. Казаў таксама, што такой кніжкі, добрай кніжкі ніхто яшчэ не напісаў. Пішыце больш, бо гэта вельмі важна і патрэбна для адраджэння нашай Бацькаўшчыны вольнай і незалежнай...".



Аляксей, Юльяна і Вольга Грыцукі, Кінгстан (Канада), 1975 г.

У іншым пісьме спадарыня Вольга паведамляе: „Сёлета (маецца на ўвазе ў 2011 годзе. — С. Ч.) у красавіку ў Вербную нядзелю адведалі мяне з Таронта уладыка Святаслаў, які прывёз з сабой спадарынь Наталлю Гардзіенка і Віялету Кавалёву. Наша беларуская арганізацыя Згуртаванне беларусаў Канады ў Таронта запрасіла спадарыню Гардзіенка напісаць кніжку пра Згуртаванне беларусаў у Канадзе. Спадарыня Гардзіенка прыехала ў Канаду на цэлы месяц. Ездзіла ў Манрэаль, Атаву, шукала матэрыялы на кніжку. Да мяне прыехала ў апошні дзень перад выездам у Беларусь. Калі кніжка будзе выдадзена, не ведаю. Усе паперы і дакументы яна сфатаграфавала...".

У пісьме пытаюся ў спадарыні Вольгі, а ці кантактаваў Ваш муж Алесь Грыцук з беларусамі, калі вучыўся ў Варшаўскім універсітэце? Спадарыня Вольга хутка піша адказ, дзе яна паведамляе і пра Алеся Грыцука: „Мой муж у тым часе ў Варшаве не жыў. Ён у 1930-х гадах настаўнічаў у Браславе і завочна вучыўся ў Варшаўскім універсітэце на гістарычным факультэце. Скончыўшы навуку, ён атрымаў дыплом з тытулам магістра. Я перагледзела ўсе ягоныя паперы і нічога не знайшла: ані дакументаў, ані лістоў і здымкаў з таго часу. Таксама не ведаю, ці мой муж меў якія-небудзь кантакты з беларусамі ў Варшаве. У 1939 годзе яго з Браслава мабілізавалі ў польскае войска і паслалі на фронт абараняць Варшаву. Там ён быў паранены і забраны ў нямецкі палон. Ляжаў у шпіталі ў Варшаве. Калі набраўся сіл і раны загаіліся, Алесь са шпіталю ўцёк дадому ў Плянту да бацькоў на Беласточчыну. У тым часе Беласточчына ўжо была акупавана Савецкім Саюзам...".

Пажаніліся Аляксей (Алесь) Грыцук з Беласточчыны і Вольга Дуброўская з Дзісеншчыны 1 лютага 1958 года. Як бачыце, у спадарыні Вольгі сёлета два юбілеі: 55 гадоў таму яна выйшла замуж за беластоцкага беларуса і свой уласны 90-гадовы юбілей.

Шлях Вольгі Дуброўскай да Аляксея Грыцука быў няпростым і доўгім. Пра гэта яна вельмі дакладна і шчыра напісала ў сваёй кнізе „Мы стварылі сваю Беларусь" (Мінск 2007). Кніга ўнікальная, цікава чытаецца, шмат фактаў з уласнай біяграфіі і з біяграфіі Аляксея Грыцука, з жыцця беларусаў у Канадзе.

На Захад Аляксей Грыцук з Беласточчыны паехаў у 1944 годзе. А ў Канаду ён дабраўся параходам з Італіі ў студзені 1948 года. Яго ўзялі ў гэтую краіну па кантракце, які трэба было адрабіць. Цэлы год ён працаваў лесарубам. Было яму нялёгка. Ён перапісваўся толькі з Міколам Ганько. І праз Міколу Алесь выйшаў на Згуртаванне беларусаў Канады, арганізаванае Кастусём Акулам. А калі скончыўся тэрмін кантракта, Аляксей Грыцук прыехаў у Таронта. І там уладкаваўся на фізічную працу і штодня вучыў англійскую мову. У Таронта ён актыўна ўключыўся ў беларускае жыццё. А Вольга Дуброўская ў гэты час ужо жыла ў Польшчы, яны сталі перапісвацца. Тым часам сябры Алеся Грыцука ў Канадзе сталі пацізу жаніцца, а ён чакаў сваю Вольгу. І вось той дзень наступіў. Вольга Грыцук успамінае: „Увечары са сталіцы Англіі я ляцела трансатлантычным самалётам у Манрэаль з перасадкай у Таронта. У цудоўны сонечны дзень, а гадзіне 11-й мяне сустрэў з групай сяброў Алесь — дарагі, чаканы. Ён бег насустрач, схапіў у абдымкі, пакружыў некалькі разоў, аж закружыў мне галаву. Мы абое расплакаліся. Яго сябры апладзіравалі і казалі: „Горка, горка!". А там завезлі нас на кватэру, якую наняў ва ўкраінцаў Глушкоў. Алесь падрыхтаваў сюрпрыз: сам склаў з купленых ім дэталяў тэлевізар і паставіў яго ў пакоі. Тэлевізар тады яшчэ быў вялікай навінай, і мяне ўразіла, што Алесь змог яго сам зрабіць. Ён доўга нам служыў. Першы куплены тэлевізар мы займелі ўжо потым, калі пераехалі ў Кінгстан...".

1 лютага 1958 года Алесь і Вольга ўзялі шлюб. А 8 студзеня 1959 года ў іх нарадзілася дачка Юльяна.

Вольга Грыцук, натхнёная сваім мужам, стала ў Канадзе актыўнай дзяячкай беларускага руху. У 1965 годзе яна была адной з заснавальніц Згуртавання беларускіх жанчын Канады. А 6 снежня 1975 года яе абралі старшынёй Згуртавання беларускіх жанчын Канады. Гэту арганізацыю Вольга Грыцук узначальвала 18 гадоў — да 1993 года.

І 18 гадоў Вольга Грыцук пражыла з Аляксеем Грыцуком. Яго не стала ў траўні 1976 года. Перад смерцю ён казаў: „Беражы Юльянку і глядзі, каб не страціць дом. Я веdaю, ты моцная, ты ўсяму дасі рады".

І мужная жанчына-беларуска сапраўды аказалася моцнай. Яна дала адукацыю дачцэ, дачакалася ўнучку Сафію... Спадарыня Вольга жыла і за сябе, і за Алеся. І працягвае жыць і думаць пра лёс Беларусі і вельмі спадзяецца, што народ беларускі будзе шчаслівы.

У яе кнігу „Мы стварылі сваю Беларусь" увайшлі і ўспаміны пра Алеся Грыцука. Але ў гэтых успамінах ёсць і радкі-характарыстыкі пра Вольгу Грыцук. Барыс Аляксандраў кажа пра яе так: „Оля — сціплая, разважная і чуйная". Раіса Жук-Грышкевіч напісала, што „любіў Алесь Грыцук прыгаство, і Бог надарыў яго прыгожай жонкай Вольгай і дачкой Юльянай". Вольга Іпатава шчыра апісвае : „Вольга Грыцук і цяпер захавала былую прыгажосць — сінія вочы, акварэльныя фарбы твару, стройную постаць, мілую ўсмешку і нейкую даверлівую чуллівасць".

Гляджу на фотаздымак Вольгі Грыцук і думаю: няўжо за плячыма гэтай прыгожай і мужнай жанчыны дзевяць дзесяткаў гадоў. Шмат ёю пераджыта, шмат пабачана, шмат зроблена. Хочацца верыць, што яе жыццёвы фэст будзе працягвацца да наступных юбілеяў, бо для беларусаў і Канады, і Беларусі, і Польшчы, спадарыня Вольга заўсёды з'яўлялася прыкладам як трэба шчыра любіць сваю Бацькаўшчыну, свой народ, родную мову. Любіць, шанаваць, пераджываць за беларускасць да апошняга дыхання, да апошняга імгнення. Са слаўным Вас юбілеем, спадарыня Вольга!

Сяргей ЧЫГРЫН

## Закон трэба шанаваць

9 кастрычніка падарожнічаў я на аўтамбілі з Гайнаўкі ў Кузаву. Выязджаючы з горада, наш шафёр (разам са мною падаваліся дзве жанчыны ў Дабрываду) запытаў: «Якой дарогаю паедзем, прамой у Кляшчэлі ці аб'ездам праз Палічну?» Я рэкамендаваў падацца дарогай праз Пяскі, каб не траціць часу пры спыненнях на святлафорнай сігналізацыі (дзесяць такіх «прыпынкаў» на дарозе з Гайнаўкі ў Кляшчэлі па прычыне рамонтных работ). Але мае сяброўкі, аднавяскоўкі шафёра, рашуча таму супрацівіліся. «Паедзем проста, — сказалі. — Не будзем блукацца па пушчы».

Ужо за Юдзянкай пачалася тармазня. Першы пункт святлафорнай сігналізацыі. Наш шафёр спыніўся на чырвоным святле. Але едучыя за намі аўтамабілі не звярталі на гэта ўвагі. Шпарылі далей не збаўляючы хуткасці. Так было і ў далейшым падарожжы. Хачу адзначыць, што дарога ад Елянкі ў Гайнаўку раскопана. Няма дзе размінуцца, прытым з боку знаходзяцца выемкі глыбіні паўтара метра (вядзецца нівеляванне новай дарогі). Адзін неразважлівы рух... і дарожная аварыя. Ніхто не наглядае за парадкам і правіламі дарожнага руху — ані дарожная служба, ані паліцэйскія. Наша падарожжа з Гайнаўкі ў Елянку доўжылася больш за гадзіну часу. На апошнім «прыпынку» чую намёк сябры шафёра: «А ўсё ж такі варта было паехаць аб'ездам. Надарэмна затрацілі шмат часу».

Гэты допіс адрасую гайнаўскім паліцэйскім. Пацікаўцеся, даражэнькія, спраў пакуль не будзе позна. Усё ж такі законы пішуцца для таго, каб іх шанаваць. А справа тычыцца людскога жыцця.

Уладзімір СІДАРУК



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# ЗАЛУКІ: нам пяць гадоў!

Усе акуратна рыхтаваліся, перажывалі — каб выйшла як у людзей. І сапраўды, свята школы атрымалася прыгожа і смачна.

Непублічная школа ў Залуках у пятніцу, 12 кастрычніка г.г., адзначыла пяць гадоў свайго існавання. За гэты час адрамантавалі будынак, упарадкавалі школьны пляц, мадэрнізавалі класы. Зараз у школе 36 дзетак. І калі паглядзець на іх — усе яны жыццярадасныя, адкрытыя. Ну і як цудоўна, дасціпна падрыхтаваліся да выступлення. Уся мастацкая частка была пра жыццё школы. Аўтарскія тэксты былі дасціпныя і ўзбагачаныя рыфмаванымі аповедамі. Выступленне рыхтавала спадарыня Эва Паплаўская, апякунка тэатральнага гуртка. Праўда, нам хацелася б пабачыць больш беларускіх матываў у час афіцыйнага выступлення. У школе ўсе ходзяць на ўрокі беларускай мовы! Парадавалі адно першакласнікі, якія пачалі сваё абяцанне з песенькі „Нам сем гадоў"...

Цікава таксама, што прысягу далі таксама бацькі першакласнікаў. Яны паабяцалі ўважна і адказна ставіцца да праблем дзіцяці. І самае галоўнае — мець час, каб іх паслухаць, дапамагчы ў навуцы ды падтрымаць у цяжкія моманты.






На свята школы прыехала многа-многа гасцей. Былі ўлады гміны Гарадок з падаркамі — войт падараваў „паездкі" на басейн, дырэктар Гміннага цэнтра культуры Юрка Хмялеўскі — пяць флейтаў. Леснікі і пагранічнікі запрасілі вучняў да сябе на экскурсію. А ганаровы госць — спадарыня Луцыя Ажахоўская, намеснік дырэктара Дэпартамента адукацыі Гарадской управы горада Беластока прывезла разам з сабой духавы маладзёжны аркестр са сталіцы Падляшша. Як аказалася, яна выпускніца школы ў Залуках.

Віншаванням і прамовам не было канца. Былі, вядома, віншаванні настаўнікам з нагоды іх свята і трох'ярусны торт з феерверкамі...

Рэдакцыя „Зоркі" таксама не прыехала з пустымі рукамі. Нашы сябры атрымалі беларускі альбом „Рыцары і дойліды Гародні" з тэкстамі Алеся Краўцэвіча, пакет шакаладных цукеркаў і „Ніву", дзе якраз мы апублікавалі артыкул, прысвечаны Патрыцыі Карлаў, выспускніцы школы ў Залуках. За гэта мы пачулі дзіцячае беларускае „Дзя-ку-ем!!!"

У гэтым месцы нам хочацца павіншаваць энергічную дырэктар Ірыну Супрун ды ўвесь настаўніцкі калектыў са Святам настаўніка. І пажадаць ім вытрымкі, поспехаў і новых вучняў.

**ЗОРКА,**
**фота Ганны КАНДРАЦЮК**

Міра ЛУКША

## Стракозка

Страказа скакала —
ножку паламала.
І не пастракоча!
Стракатаць так хоча...
Сядзіць на галінцы,
ломіць ёй і ў спінцы.
Цяжкі гіпс на ножцы
муляе ёй трошкі...
Што ўзляцець спрабуе —
гіпс долу кіруе.
Пабаліць ёй трошкі.
Скінуць той гіпс з ножкі.
Як вясёлка ўзб'ецца
па-над нашай рэчкай.
Ножак хай пільнуе,
крыльцаў хай шкадуе,
а ў шпіталь, дзе дзеткі,
залятае зрэдку:
калі навесялелі
і паздаравелі.

## Джаз

Жылі-дружылі Д, Ж, З. Згуртаваліся ў дружны джаз.

Д дудзела на дудзе.

Ж іграла на жалейцы.

З званіла ў званы.

Дзень у дзень яны ігралі ў дзетсадзе, забаўлялі дзяцей. Ду-ду-ду, жы-жы-жы, зі-зі-зі. Дужымі расціце, кожны дзень спіце...

Аднойчы Д, Ж, З запрасілі ў джаз блізкіх суседзяў — Е, Ё.

— Давайце разам дзінькаць, дзекаць, дзвынькаць.

— Екаць, — дадала Е.

— Ёкаць, — далучылася Ё.

Зайграў джаз. Зашоргала піла: дж-дж-дж. Загула пчала: дз-дз-дз. Заекалі, заёкалі музыкі: е-е-е, ё-ё-ё!

Джаз разбудзіў дзяцей. Пачалі дзеці пазнаваць знаёмыя гукі. Дзіва! Дзесьці на лузе — дзяркач. Дрозд дрыжаў на дрэве. Дзюбаты дзяцел дзюбаў у дуб. Завіруха жудасна завыла...

Дзеці дружна ўзяліся за рукі, жыва заскакалі, пад жывую музыку заспявалі:

— Жабка збірае журавіны,
Жменькай закідвае ў жбан.
Дзіўна дзеліць дыню,
Дзілі-дыню, дзілі-дын...

Джазам дрыжыравала Ё, бо ў яе зыркія вочкі.

*(паводле У. Ліпскага)*

## Вершы Віктара Шведа

### Добра будзе

Звярнуўся Янка да Сцяпана:
— Заўтра ў нас цяжкі экзамен.
Ці ты паўтарыў хоць крыху,
Каб не выклікаць тут ліха?

— Паўтараў, дружок, вядома,
Каб пазбегнуць заўтра грому,
Коратка, каб не марудзіць,
„Добра будзе, добра будзе!"

### Парасоны

— Дажджу чакаю праліўнога,
Хачу каб ліў як найчасцей,
Тады мне ў сэрцы шчасця многа
І на душы мне весялей.

Вядома дождж не ўсім улюбёны,
Людзі маркоцяцца тады.
Я прадаю ўсім парасоны,
Якім патрэбны дождж заўжды.

# Пачатак з беларускай малітвай!



Фота Ганны КАНДРАЦЮК



— Сёння, як божыя птушаняты, вы зляцеліся ў нашу царкву, каб узнесці малітву Усявышняму, — прывітаў дзетак, бацькоў і настаўнікаў айцец Рыгор Місіюк, настаяцель Свята-Юр'еўскай царквы ў Беластоку.

Бацюшка павіншаваў таксама настаўнікаў з іх святам.

Як кожны год, у пачатку навучальнага года аб'яднанне АБ-БА арганізавала беларускі малебен для дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову. Як ніколі, 11 кастрычніка г.г., з'явілася шырокая грамада навучэнцаў з бацькамі. Малебен адслужылі тры святары: настаяцель Рыгор Місіюк, айцы Валяр'ян Антасюк і Уладзіслаў Масайла. Малебен прыаздобіў асаблівы хор пад кіраўніцтвам матушкі Анны Цыркун. Падпявалі бацькі нашых школьнікаў. На канец, згодна з традыцыяй, гучна і ўрачыста дарослыя і малыя праспявалі рэлігійны гімн „Магутны Божа". Настаяцель звярнуў увагу на фрэскі ў яго горнай царкве. Якраз тут размаляваны Сабор Усіх Беларускіх Святых ды Пакутнікі Холмскія і Падляшскія. Здавалася, у час малебна яны рассвятляліся!

ЗОРКА



Госці з Дубіч-Царкоўных

# АБ ПАЎСТАННІ ТРЫВЕЖЫ

Дзе цяпер Вежанка і Трывежа, даўным-даўно жыў пан. Ён там пабудаваўся і засадзіў гектар саду. Вакол яго замка раслі высокія і вельмі прыгожыя дрэвы, звалі іх сокаламі. Меў пад сваім уладаннем многа гектараў зямлі. Полем яго ўладаў падпанак... Пан, пад якога ўладаннем былі гэтыя землі, не хадзіў па іх, а толькі высылаў свайго падпанка Аніську, а сам з паняй шпацыраваў па сваім парку ды раз-пораз узлазіў на вежу, якая стаяла каля яго двара, і глядзеў на сваё доўгія палі, як працуюць яго сяляне. Апрача таго на гары ў полі стаялі яшчэ тры вежы, на якія ўзлазіў падпанак Аніська...

Надышоў урэшце час, і пан памёр. Астаўся толькі Аніська з дочкамі. Пачаў ён зямлю прадаваць. Народ на гэтае месца з'язджаўся з усіх бакоў. І на гэтай гары, дзе стаялі тры вежы, вырасла вёсачка Трывежа, а ўбок, дзе стаяў панскі замак і дзе стаяла адна вежа, разбудавалася вёсачка Вежанка.

## Як мая бабуля ўратавала чалавека

*Мая бабуля Геня нарадзілася ў час Варшаўскага паўстання. Я думаю, што яна — анёл. Папраўдзе яна завецца Антаніна, але ўсе ў сям'і завуць яне Геняй. У яе чырвоныя валасы і вялікая адвага.*

*Бабуля ўратавала чалавека.*

*Раскажу аб гэтым.*

*Аднай раніцы бабуля была дома. З вуліцы даходзіў крык: „Ратунку! Ратунку!".*

*Бабуля выбегла з хаты, прыхапіўшы з сабой мятлу. Яна пабачыла чалавека, які працаваў на іх вуліцы. Гэта была дзіўная сцэна. Чалавек бараніў свайго маленькага сабачку, на якога накінулася нямецкая аўчарка. Ён лёг перад сваім сабачкам на зямлю, каб яго бараніць ад раз'юшанага сабарніска. Малы плакаў, а вялікі злосна бурчаў. Быццам хацеў яго разарваць. Бабуля падбегла з мятлой і пачала лупіць вялікага сабаку. Ён уцёк.*

*Чалавек падзякаваў бабулі. Ён сказаў, што ведае гэтага сабаку, які іх атакаваў. Ён небяспечны і агрэсіўны. Каб не яна, усё магло здарыцца.*

*Ну вось, мая бабуля прыбегла ў пару. І не пабаялася злоснага сабакі. Яна жыве за Шчэцінам. Я бачу яе раз у год, але мы часта размаўляем па тэлефоне. Яна — самая любімая бабуля на свеце.*

***Вераніка Кардзюкевіч,***
*пяты клас НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 42

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклеены кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 38:

Падборка, мох, ар, малады, вецер, конік, барак, бот, аса, санаторыяй. Маг, бас, спор, каса, ах, воран, мена, брацік, лек, ар, бор, код, но, малыш, той.

Узнагароды, майкі з беларускімі лагатыпамі, выйгралі **Кшысь Пятроўскі** і **Ева Марчук**. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Siłaczka / Marzenie | | Pełno | |
| Film | Oko | | Książka / Numer | | | | |
| Finał / Figura | | | | | | Mina | |
| | | | | | | | |
| Chłam | | | | | | | |
| Chmurka | | | | | | | |
| | | | | | | | |

# Усход культуры — беларуская сцэна (2)

Амаль ва ўсіх маштабах беластоцкага фестывалю **«Усход культуры — Іншае вымярэнне»** (25-29 верасня) з'явіліся беларусы. Аб некаторых падзеях, звязаных з іх удзелам, мы пісалі ў папярэднім выданні «Нівы». Таксама прысутнічалі яны ў вымярэннях: музыка, танец і мода. Дзякуй Максіму Жбанкову хапіла разважанняў аб сучаснай сітуацыі беларускай культуры. Натоўпы былі ў Беластоку на адкрытай прэм'еры «Антыгоны». Таксама натоўпы сабраліся ў беластоцкім кінатэатры «Форум» на канцэрт легендарнага гурту «Тройца» з Мінска і культавага ўжо барда Тодара (Зміцера Вайцюшкевіча), які выступіў разам з іграючай ад дваццаці гадоў падляшскай «Чарамшынай».

Стыль «Тройцы» часта называюць «фолк-ф'южн з дамешкай музыкі свету». Этна-трыо «Тройца» ўзнікла ў 1996 годзе, а яго заснавальнікам і мастацкім кіраўніком з'яўляецца Іван Кірчук. Ідэя групы прыйшла, калі збіраў ён этнаграфічныя матэрыялы ў беларускіх вёсках. Вырашыў папулярызаваць народныя песні і ўключыць іх ва ўніверсальную музычную культуру. Назва групы спасылаецца не толькі на колькасць членаў каманды, але і на рэлігійны тэрмін, які мае падкрэсліць укараненне групы ў нацыянальнай традыцыі. Іван Кірчук, антраполаг і этнолаг, званы шаманам сцэны, у размове з «Нівай» успамінаў пачаткі працы групы — сённяя ўжо легенды:

— У той час, калі прыйшла ідэя стварыць групу, якая будзе працаваць у рэальным фальклоры, але з некаторымі ўплывамі сучаснай музыкі, ужо дзейнічала група «Палац», якая працавала над старымі беларускімі песнямі ў спалучэнні з электронікай. Мы вырашылі выкарыстаць толькі акустычныя гукі. Паехалі на першае выступленне за мяжой — у Галандыю. Там аказалася, што мы зрабілі пераварот. Галандцы сказалі нам, што яны ніколі не чулі такой музыкі, якая з'яўляецца выдатнай, і каб мы далей так працавалі. З тых часоў пачалося наша даследаванне старажытных інструментаў, удзел у фальклорных экспедыцыях. Больш за дзесяць гадоў працы, гэта амаль сто фестываляў, ад Малайзіі да Партугаліі, сем кампакт-дыскаў, два былі запісаны ў Польшчы, у тым ліку адзін на Радыё Беласток. У цяперашні час мы ўжо не схільныя да фолк-ф'южн, пайшлі трохі далей. Народная музыка ўсё яшчэ дае нам падставы, каб працягваць шукаць іншыя музычныя колеры.

Адзначыў:

— Пакуль беларускі народ жыве ў вёсках, беларуская культура будзе жыць, хоць радзей спяваюць зараз у вёсках у Беларусі, а маладыя людзі часта пакідаюць іх для гарадоў. Засталося, аднак, шмат музыкі, запісанай фалькларыстамі, этнографамі, якая знаходзіцца ў архівах.

Пры нагодзе Іван абвясціў, што з нагоды свайго 55-годдзя 1 кастрычніка ў Мінску будзе мець вялікі сольны канцэрт. Падрыхтаваў з гэтай нагоды сцэнічны, музычны абрад аб тым, як чалавек нараджаецца, сталее, памірае і пачынае жыць ізноў.

Музыка таксама спадарожнічала паказанаму на фестывалі танцавальнаму праекту «Прыгажосць жыцця» па канцэпцыі і харэаграфіі Караліны Гарбацік. Была гэта гісторыя аб праміранні. Крыніцай натхнення для стваральнікаў стала кранаючае жыццё і кар'ера Норы Нэй, кіназоркі даваеннага кіно, родам з Падляшша. Спецыяльна для гэтага праекта Караліна Гарбацік адшукала — па рэкамендацыі знаёмых — на фейсбуку і запрасіла да ўдзелу вялікую харэографку і танцорку з Мінска Вольгу Скварцову, якая вядзе ў беларускай сталіцы «SKVO's Dance Company». Мастачка пасля паказу ў цікавай прасторы факультэта архітэктуры Беластоцкай палітэхнікі, поўнай жывой музыкі і абсталяванай мультымедыйнай тэхнікай, сказала нам:



Лявон Тарасэвіч укладвае кнігі пад «Антыгону»

— Паколькі тэма звязана з жыццём Норы Нэй, у час творчага працэсу адышлі мы ў напрамку агульнай гісторыі пра чалавека, яго пошукаў гэтага, каб было яму лепш, лепш, і яшчэ лепш, аб такім бясконцым кругу неадабрэння таго, што ёсць і імкненні да нечага яшчэ лепшага. Жыццё Норы Нэй было прычынай развагі пра больш шырокія пытанні, жыццё ў цэлым, у тым ліку і пра гендэрныя пытанні.

«Усход культуры» ў беластоцкім выданні ахапіў таксама вымярэнне моды. У той жа прасторы, дзе паказвалі «Прыгажосць жыцця» некалькі дызайнераў прадставілі свае калекцыі, у тым ліку Анастасія Міранові́ч з Мінска, прадстаўніца «Беларускай палаты моды», якая прадае сваю вопратку ў цэнтры Мінска. Пра сваю калекцыю, паказаную ў Беластоку, сказала нам:

— Крыніцай натхнення для маёй калекцыі была тэма сафары. Колеры я падбірала невыпадкова. Я захапілася імі ў порце Яфа ў Ізраілі. Калекцыя называецца «Аазіс». І тыя ўборы, якія паказваюць дзяўчат — як аазіс у горадзе. Яны як глыток свежай вады для шэрага горада. Я выкарыстоўваю толькі беларускія тканіны.

Пры нагодзе ацаніла вулічную моду Мінска:

— У Мінску я сумую па колерах на вуліцах. Улетку часам нават добра, але калі прыходзіць халоднае надвор'е, калі гаворка пра адзенне, вуліцы шэрыя і змрочныя. Я думаю, што гэта проста з-за практычнага мыслення, каб было галоўным чынам зручна і практычна. Многія людзі баяцца тут адрозніваццa ад іншых.

Амаль у той жа час, калі на подыуме факультэта архітэктуры былі паказаны апошнія калекцыі адзення, у камерны зале Падляшскай оперы і філармоніі паказвалі дакументальны фільм «Olmany» Ягны Кнітэль і спектакль «Olmany Interludium» у выкананні гурту «Za Lasem». Неўзабаве пасля гэтага адбылася сустрэча з культура- і медыязнаўцам Максімам Жбанковым, праведзеная журналістам Мікалаем Ваўранюком.



Вольгу Скварцову падымаюць у танцы

— Цяперашняя ўлада ў Беларусі сапраўднага фальклору не бачыць, не адчувае яго як уласны. Прыкмячае фальклор на свяце ўраджаю, дапушчальным свяце ўлады. Баіцца таго, што выходзіць з-пад кантролю, а натуральны фальклор кантролю не паддаецца. Цяперашняя афіцыйная культура ў Беларусі гэта культура ўмяшання, — пераконваў Максім Жбанкоў, а затым у размове з «Нівай» падкрэсліў:

— Праблема ў тым, што сучасная беларуская культура існуе ў шызафрэнічным фармаце. Сапраўдная культура жыве на абочынах, у сярэдзіне нічога няма. Няма чагосьці такога, што мы маглі б назваць дзяржаўным стылем, генеральнай лініяй зацвярджанай уладай, канонам. Дзяржаўная беларуская культура ўвесь час марыць пра невядома што. Тое, што на самой справе з'яўляецца беларускай культурай, існуе незалежна ад дзяржаўнай дапамогі. Ну, часам бывае, што, скажам, такому гурту «Тройца» ласкава дадуць выступіць у дзяржаўнай зале, але свае праграмы гэты гурт робіць без дзяржаўнай дапамогі і выпускае запісы без гэтай дапамогі. Тое ж самае датычыць, скажам, Зміцера Вайцюшкевіча, незалежных фільмоўцаў ці мастакоў. Парадокс нашай беларускай культуры заключаецца ў тым, што існуе непрыкметна для дзяржавы, а дзяржава сама па сабе яе не заўважае. Таму смешыць мяне, калі незалежную беларускую культуру прадстаўляюць як культуру бесперапынных баёў. Сутнасць у тым, што большасць беларускай культуры існуе па-за межамі палітычных канфліктаў, яна поліфанічная і складаная.

Звярнуў таксама ўвагу:

— У цяперашняй сітуацыі ў Беларусі, Беласток для беларускай культуры гэта ў пэўным сэнсе знакавае месца. Гэта прыкладная прыгранічная тэрыторыя, дзе я не адчуваю сябе замежнікам. На гэтай тэрыторыі польска-беларускага ці польска-ўкраінскага пагранічча адбываецца тое, што найбольш цікавае ў культуры. На працягу ўсёй гісторыі культуры самыя важныя культурныя падзеі адбываліся на ўскраінах, дзе сутыкаліся розныя напрамкі, дыялогі і рэлігіі. Гэта стварае эфект паліфаніі. Паводле мяне, Беласток і Беласточчына з'яўляюцца ўзорным прыкладам культурнага крэатыву. Для культуры няма жорсткіх межаў. Не скажаш, што тут ёсць культура польская, а там культура беларуская. Калі культура сапраўды жывая, яна заўсёды адкрытая. Межы пабудаваны пэўным фарматам культурнай палітыкі, але культуры не ўвасабляюць генералы культуры, а тыя, хто карыстаецца ёю кожны дзень, штодзённая практыка вуліцы і тут няма мяжы. Мяжа ўзнікае там, дзе фармулюецца ясна што дазволена, а што не, узнікае ў свядомасці адміністратараў культуры. Можна пабудаваць муры і межы, але культура і так жыве за іх межамі, як рака, якая цячэ не там, дзе нам зручней, а там, дзе яна хоча. Галоўнае, каб культуры не мяшаць. Трэба культуру пакінуць культуры.

Вялікім завяршэннем «Усходу культуры — Іншага вымярэння», была, без сумневу, прэм'ера «Антыгоны» беластоцкага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі ў рэжысуры Агнешкі Карыткоўскай-Мазур (пра гэта мы пісалі ў папярэдніх выпусках «Нівы»). У адрозненне ад дапрэм'ернага паказу ў Крынках, у Беластоку ў падставе асноўных дэкарацый, запраектаваных Лявонам Тарасэвічам, леглі дзесяткі кніг (адна з самых тоўстых — «Гісторыя Беластока»), свайго роду «падтрымка» для гісторый з антычнай трагедыі Сафокла і крынскіх з часу рознагалоссяў паміж сваякамі пасля вызначэння новых пасляваенных меж на ўсходзе Польшчы.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Пячэнне бульбы з Наталляй Арсеннevай і Міколам Дварэцкім



Здымак маладога Міколы Дварэцкага (з мандалінай і з даўжэйшымі валасамі)



Хэлмна — дамы, у якім жыла Наталля Арсеннева

* * *

*Прамінула гарачае лета,*
*А ўжо й восень глядзіць у вакно.*

Так у 1982 г. пісаў Мікола Базылюк (Дварэцкі). У апошнюю суботу верасня (28.09.) беларусы Трыгарада сустрэліся на традыцыйным ужо пячэнні бульбы ў сопацкім лесе па вуліцы Мікалая Рэя. Кожны забраў з сабой, што меў, у аснoўным дары лета — апрача бульбы — яблыкі, вінаград, агуркі, памідоры, цыбулю, вясковае масла ды да таго свае напіткі — віно з шыпшыны дзядзькі Часлава, слівавіца Алеся. Пячэнне бульбы ў нас заўсёды спалучаецца з развітаннем з летам і вітаннем залатой восені.

Здаецца ўжо цяжка сабе ўявіць інакш сустрэчу нашага асяроддзя, распыленага па Памор'і пасля лета, як не на супольным пячэнні бульбы. Праўда, апошнімі гадамі мы яшчэ сустракаліся раней, у канцы жніўня ці ў пачатку верасня, на „дажынках" таксама ладжаных у сопацкім лесе на „дзялцы" Часлава Мекіна, але ў гэтым годзе спалучылі адно з другім. Праўда, некаторых напужалі вераснёўскія халады і дажджы, але сабралася нас каля 20 чалавек — ва ўзросце ад 2 да 82 гадоў.

Ад пачатку нашых восеньскіх сустрэч заўсёды нашым вогнішчам і пячэннем бульбы займаўся Яўген Іванюк, які пару гадоў таму назад з'ехаў на Беласточчыну. Таму, калі нам асабліва нешта не ўдаецца, Яўген успывае ў нашай памяці самым найлепшым словам. Так было і гэтым разам. Надвор'е было асаблівае — холадна, раз-пораз свяціла сонца наперамен з праліўным даждҗом. Аднак вогнішча распалілі вокамгненна, сяброўкі падрыхтавалі бульбу, частку якой загарнулі ў „золатка".

Чакаючы на тое, калі спячэцца бульба, чыталі вершы нашых паэтаў-юбіляраў — Міколы Дварэцкага і Наталлі Арсеннеvай, якіх, так як і нас усіх, у свой час лёс закінуў на Памор'е. Прыпомнілі мы іх шлях сюды. Так склалася, што ў верасні выпалі іх 110-я ўгодкі нараджэння. Мікола Дварэцкі — менш вядомы чым Наталля Арсеннева ў беларускай літаратуры, хаця ад яго верша „Рунь" пайшоў загаловак першага зборніка беларускай літаратуры ў Польшчы ў 1959 г. Быў ён ананімным падпісчыкам „Нівы" праз усе гады жыцця пад Штутавам, а вершы ў яе слаў пад псеўданімам Мікола Базылюк. Нават першы галоўны рэдактар „Нівы" Георгій Валкавыцкі не ведаў, хто скрываецца пад гэтым псеўданімам. Толькі ў 2008 г., дзякуючы свайму сыну Юрку і грамадцы самаадданых справе палякаў і беларусаў, Мікола Дварэцкі „дачакаўся" зборніка вершаў „Там і тут", які так і не заіснаваў ні ў беларускім літаратуразнаўстве, ні ў публіцыстыцы.

Мікола Дварэцкі нарадзіўся 6 верасня 1903 г. у Іказьні на Браслаўшчыне (афіцыйна падаваў, што ў Выбаргу). У міжваенны час стаў актыўным дзеячам беларускага руху ў міжваеннай Польшчы, за што двойчы сядзеў на віленскіх Лукішках. Звязаны быў з праваслаўнай фракцыяй беларускай хадэцыі. У час вайны быў войтам у Міёрах, а перад уваходам саветаў з'ехаў спярша ў Аўстрыю. Трапіўшы ў спецаддзел савецкай арміі, ратаваў жыццё ўцёкамі ў чарот Віслянага заліву, адкуль выйшаў у кастрычніку 1946 г. пасля трохмесячнага пражывання на лодцы. Пасяліўся ў апусцеўшым нямецкім доме і распачаў новае жыццё ад пошукаў сваёй каханай праз аб'явы ў газетах. Знайшоўшыся абое, заснавалі сям'ю. Спярша жылі ў Лашцы, а пасля ў „палацы пад дубам" пад Штутавам. Мікола Дварэцкі кантактаваўся з даўнімі сябрамі — з Мар'янам Пецюкевічам, Аўгенам Аніськам, Аленай Казлоўшчыцай, пісаў вершы і пасылаў іх у „Ніву". Жыў галоўным чынам з рыбалоўлі і пчалаводства. Памёр 25 гадоў таму назад — 15 жніўня 1988 г. у сына ў Руміі, а пахаваны ў Лембарку, дзе жыве яго дачка Галіна. Апошнім часам Міколам Дварэцкім зацікавіўся журналіст Дзмітрый Гурневіч, які змясціў у „Нашай Ніве" артыкул „Таямніца Дварэцкага", даступны таксама ў інтэрнэце. Прысутны на пячэнні бульбы сын Міколы Дварэцкага, Юрка, згадаў пра свайго бацьку і пра наведанне свайго дваюраднага брата Юзіка ў Калабжэгу, у якога ўдалося знайсці яшчэ невядомыя дасюль здымкі Міколы Дварэцкага. Сярод залатога лесу выпадкова неяк рэальна ўсплылі ў чытанні восеньскія радкі Міколы Базылюка, быццам бы слоўны тэкст для нашай сустрэчы:

*У восень лес сумуе*
*Губляючы красу,*
*У паветры ліст віруе*
*Страсаючы расу.*

*Гусіны ключ высока*
*Свой робіць пераклічь,*
*Ляціць у сьвет далёкі —*
*Там зімку перабыць.*
(„Чатыры пары году ў лесе")

*Не мяцель крылом белым махае,*
*Сухі сьнег не сьпіхае ў пласты —*
*Гэта восень гулянкі спраўляе,*
*Абтрасаючы з дрэваў лісты.*

*Мгла густая вісіць над зямлёй,*
*Абняла па-над рэчкай кусты —*
*Шэры зайчык прылёг пад вярбой,*
*Закапаўся пад лісьцяў пласты.*
(„Восень")

Хаця ў зусім іншы час, бо ў 20-я гады XX ст. на Памор'і, але таксама не па сваёй волі, апынулася выдатная і вядомая беларуская паэтка Наталля Арсеннева. У 1924-1936 гг. жыла ў адным з найпрыгажэйшых, калі не ў найпрыгажэйшым паморскім горадзе Хэлмне, паколькі яе муж Францішак Кушаль служыў афіцэрам у польскім войску. Нарадзілася яна 20 верасня 1903 г. у Баку, вучылася ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе пад апекай Максіма Гарэцкага стала беларускай паэткай. Наогул яе біёграфы неяк маўчаннем дасюль абміналі перыяд жыцця ў Хэлмне або лакалізавалі яго пад Люблінам. А тым часам у Хэлмне дасюль стаяць дамы, у якіх жыла паэтка і пісала вершы з цыкла „Жоўтая восень", якія меліся быць выдадзены яшчэ да вайны. Склаўшыеся неспрыяльныя ўмовы (вайна, эміграцыя) запознілі іх выданне і паказаліся яны толькі ў эміграцкім зборніку Наталлі Арсеннеvай „Між берагамі", выдадзеным у 1979 г. Паэтка памерла 25 ліпеня 1997 г. у ЗША. З нагоды юбілею ў сопацкім лесе вельмі свойска гучалі і „восеньскія" вершы Наталлі Арсеннеvай:

*...Жоўта скрозь...*
*Над палямі шырокімі*
*сьпяць дубы, як мядзяныя волаты,*
*ўкруг бярозы стаяць белабокія,*
*сыплюць з косаў расплеценых золата,*
*сьпіць лог жоўты, туманамі змочаны,*
*пахне мохам, лістамі, як ладанам...*
*І сьціскаецца сэрца няхочачы*
*смуткам любым, дзіўным, неразгаданым.*
*(...)*
*Восень жоўтая смуткам кудзеліцца,*
*сном кладзецца на вецьце дубовае.*
*Для мяне яна —*
*блізкая, знаная,*
*новай песьняй ў сэрца ўціскаецца*
*і натхненьнямі, здаўна чаканымі,*
*нада мной, як лісьцём, асыпаецца....*
(„Жоўтая восень")

Калі пасля паэтычных чытанняў на ўлонні сопацкага лесу пачало шарэць і пахнуць вячэрняй восенню, вогнішчам і печанай бульбай, шмат каму з нас, седзячых пры бульбяной вячэры, прыгадаўся своеасаблівы пах печанай бульбы ў дзяцінстве на бацькавым полі. Успаміналі таксама мінулае лета, гаварылі пра з'езд беларусаў свету ў Мінску, беларускі лёс і пра „Гданьскія біяграфіі", якія чакаюць нас 17-20 кастрычніка. А вакол нас, як пісала ў 1935 г. у Хэлмне Наталля Арсеннева:

*Лёгка-займглёныя восені далі*
*ў ясна-зялёным блакіце стаялі.*
*Гаснучы, сыпаўся дзень пазалотай*
*зь неба на тонкіх бяроз пераплёты.*
*Чырваняй кволай, старой акварэлі*
*клёны і асіны ў лесе гарэлі.*
*Дзень дапаліўся, і цемра нядбала*
*ў шэрасьці хварбы жывыя схавала.*
*Лес у густым, мутнаватым тумане*
*ўзмрок адыйшоўся, як шэрае зданьне...*
*Цёмна... Бярозы нябачна ў полі,*
*Сыплюць асеньнія сьлёзы паволі...*
(„Туга")

Перапляталіся яны са словамі Міколы Дварэцкага:

*Як асыплецца ліст залаты,*
*Тады шмат іх табе набяру.*
*Сёньня штосьці шапочаць яны,*
*Спатыкаючы рана зару.*



Фота Анны Сабэцкай

Атмасферу пячэння і смакавання бульбы з успамінаннем Міколы Дварэцкага і Наталлі Арсеннеvай, спалучаным з чытаннем іх вершаў на ўлонні надыходзячай восені, на развітанне напамінаў радок Наталлі Арсеннеvай з 1935 г.: „Расьцюць у лесе вершы ўвечары...".

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

# Універсалізм Зэнка з Гайнаўкі

На першы погляд здаецца, што гэта абразкі купленыя на базары ў нейкай усходняй дзяржаве. Жывыя, выключна рашучыя колеры і формы, мноства розных, зусім неспадзяваных і не падыходзячых да сябе дэталяў, недахоп асноўных прапорцый.

Гэтыя далёкаўсходнія, амаль азіяцкія ў смаку выяўленні, нарадзіліся на Гайнаўшчыне ў другой палове дваццатага стагоддзя ў галаве Зэнка, а дакладней Іларыёна Данілюка з Каменя. У эпосе рынкавай сціпласці краіны размалёўваў ён падгайнаўскія хаты вядомымі з вясковых панадворкаў і загуменняў кветкамі ці макаткава-карцінкавымі, рамантычнымі аленямі і лебедзямі. Сцэны гайнаўскіх вілаў у пачатку васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя запаўняліся дэкорам, напоўна тоесным са стылем быцця і жыцця іх гаспадароў. Згаданыя вясковыя матывы перапляталіся з моцнымі акцэнтамі гарадскога сацрэалізму, а таксама з марамі пра дабрабыт і адпачынак у блізкім і далёкім замежжы. Іх стваральнік, як і самыя творы далёка выходзілі па-за прынятыя і даступныя стандарты. Зэнэк існаваў без уласнага адрасу, хаты, працаваў часта толькі за міску стравы і начлег. Ахвота публічна адкрыць надта ўражлівую натуру і пакінуць трывалы творчы след перамагала пачуццё неабходнай стабілізацыі і прадбачлівай будучыні. Зваротам да ідэалізаванага свету сытасці і шчасця самародны мастак паспяхова здабываў шматлікіх заказчыкаў — прыхільнікаў сваёй творчасці. Радуючыя вока і душу аўтарскія малюнкі пакрывалі, бывала, усё, што састаўляла хатні інтэр'ер, уключна з лесвічнай клеткай ці кіём ад шчоткі.

Разлучыць Зэнка з пэндзлем магла толькі смерць. Памёр ён у 2000 годзе. У апошняе падарожжа беспрытульнага мастака выправілі яго кармільцы і наймальнікі Марыя і Міраслаў Філіпюкі з Гайнаўкі.

Работы Іларыёна з Каменя паступова адыходзяць у забыццё. Старамодныя, аўтарскія малюнкі знікаюць пад чарговымі слоямі сучасных шпалераў, глазуры і тэракоты. Менш відавочнымі становяцца таксама яго арыгінальныя, беларускія арнаменты на двухпавярховых блёках у цэнтры Гайнаўкі. Усё-такі знайшліся людзі, якія па-прафесійнаму дацанілі талент адышоўшага мастака. Дзякуючы намаганням Яна Грыкі і Лявона Тарасэвіча, работы Зэнка ўваходзяць у штораз шырэйшы свет прызнанага мастацтва, а кола іх аматараў хутка пашыраецца. Фатаграфічны запіс яго раскінутай, у асноўным па Гайнаўшчыне, спадчыны публічна дэбютаваў у 2008 годзе ў Галерэі „Бяла" Цэнтра культуры ў Любліне, якая стала таксама выдаўцом адпаведнага каталога. Фрагменты люблінскай выстаўкі разам з каталогам завандравалі ў Крынкі. Тут 3 лістапада ў былой яўрэйскай хаце па вуліцы Пілсудскага адбыўся вернісаж. З асобай і творчасцю Зэнка знаёмілі сабраных Ян Грыка і Лявон Тарасэвіч. Арганізатары мерапрыемства фонд „Віла Сакрата" даставілі крынчанам багаты, душэўны пачастунак. Далёка не часта можна тут паслухаць і ўключыцца ў разважанні на тэму мастацтва. На жаль, голад культуры ў Крынках не надта разбуджаны, таму і аматараў пачастунку трэба было днём з агнём шукаць. У асноўным пакарысталіся ім госці са сталіцы ваяводства — найвернейшыя сябры крынскага фонду.



Злева: Ян Грыка і Лявон Тарасэвіч

Прапанаванае меню, на думку прафесара Лявона Тарасэвіча, універсальнае. Карціны Зэнка нялёгкія для ўспрымання інтэлектуальным асяроддзем, але людзі, якія не маюць дачынення да мастацтва, таксама мусяць над імі задумацца.

— Многія зусім гэтага не ўспрымаюць, — працягвае прафесар Тарасэвіч. — У, на выгляд, халтурных выяўленнях Зэнка мы бачым шмат рэчаў прысутных у мастацтве. Апрача таго, што ствараў тое, чаго чакалі ад яго людзі, то яшчэ ўключаў надзвычай наватарскія рашэнні. Для прыкладу, яго ўзоры на здымку драўлянай, карычневай падлогі падобныя на сучасны дызайн родам, між іншым, з тэлеканала MTV. Гэта эстэтыка, якой цяпер карыстаюцца ў свеце многія. Зэнэк тым займаўся тады, і няма тут ніякага рэалізму. Здаецца, адчуваеш вобраз кветкі, але гэта не кветка. У яго працах прысутнічае незвычайная энергія, вельмі характэрная для свету на ўсход ад Нарвы, — лічыць спадар прафесар.

Лявон Тарасэвіч з'яўляецца піянерам у распаўсюджванні ў Крынках культуры „з найвышэйшай паліцы". У рамках запланаваных, штомесячных сустрэч ён хоча знаёміць усіх жадаючых з якасным мастацтвам, якое адначасова будзе зразумелым і эстэтычна блізкім мясцоваму насельніцтву.

Арганізатары крынскага вернісажу ўгаворваюць усіх зацікаўленых творчасцю Зэнка да настойлівых пошукаў яго рэалізацый у месцы іх паўстання. Чакаюць таксама падказу як зберагчы яго незвычайную спадчыну.

Можа гэтая выстаўка натхніць яе наведвальнікаў таксама да пошукаў іншых, невядомых вясковых творцаў?

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

Галоўная Жыццяпіс Вершы Бібліяграфія Рэцэнзіі і аналіз Галерэя

Рыгор Барадулін

**www.baradulin.ru**

Вітаем Вас на паэтычнай старонцы Рыгора Барадуліна

Беларускую сучасную літаратуру немагчыма ўявіць без такога паэта як Рыгор Барадулін. Падаецца вельмі прыемным, што нягледзячы на ўжо далёка не малады ўзрост — літаратару сёлета споўнілася 78 гадоў, ён не пакідае літаратурнай і грамадскай дзейнасці. Напрыклад, ён з'яўляецца ганаровым сябрам ЗБС „Бацькаўшчына", а не так даўно — у верасні — выйшла ў свет яго дапоўненае выданне зборніка духоўнай лірыкі „Ксты".

Па вялікім рахунку, кароткага артыкула не хопіць, каб перадаць нават толькі найбольш значную інфармацыю аб Рыгоры Барадуліне, яго жыццёвай і творчай біяграфіі. Праўда, аб усім гэтым можна даведацца, калі зазірнуць на сайт, які прысвечаны народнаму паэту.

Сайт „Паэтычная старонка Рыгора Барадуліна" месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://baradulin.ru**. Выгляд у яе някідкі, хутчэй, сумнаваты, бо практычна няма аніякіх аздабленняў, а каляровы фон — шэры.

Галоўная старонка сайта адразу вітае нас вершам паэта „Пакуль жывеш, развітвайся з жыццём". Уверсе над ім здымак Барадуліна з кніжкай у руках, ну і зразумела, выйсці на іншыя старонкі сайта. Варта адзначыць, што, акрамя гэтага, галоўная старонка практычна не змяшчае цікавай інфармацыі і ўяўляе сабой свайго роду старт для вандравання па іншых старонках сайта.

Многа цікавага аб Рыгоры Барадуліне можна даведацца на старонцы „Жыццяпіс". Праўда, пададзеная там інфармацыя няпоўная. Яна не змяшчае апошніх падзей у жыцці паэта, прынамсі, згаданых напачатку артыкула. Адна з найбольш значных і адносна нядаўніх навін гэта тое, што ў 2006 годзе яго кандыдатура была сярод намінантаў на Нобелеўскую прэмію ў галіне літаратуры. На журы былі прадстаўлены ўсё той жа зборнік „Ксты".

Рыгор Барадулін быў блізкім сябрам Васіля Быкава. „Паэзія Барадуліна — чыстай красы Боская паэзія беларусаў, крыніца нацыянальнага натхнення, складнік яе спрадвечнага духоўнага набытку. Тое асаблівя адчувальна, калі апынуцца ў растанні з ёю..." — прыводзяць стваральнікі сайта словы Быкава аб сваім сябры, змясціўшы іх у „Жыццяпісе". З гэтай старонкі таксама становіцца вядома, што Барадулін стаў апошнім беларусам, якому надалі званне народнага паэта. Адбылося гэта ў 1992 г. Мае ён узнагароды — Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Янкі Купалы (1976) за зборнік вершаў „Рум" і пераклады з Гарсіі Лёркі, Ордэн Знак Пашаны, латышскі Ордэн Трох Зорак (1995), медаль Францыска Скарыны. З'яўляецца Барадулін ганаровым доктарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і ганаровым грамадзянінам Ушацкага раёна, што ў Віцебскай вобласці.

Старонка „Бібліяграфія" змяшчае пералік усіх раней выдадзеных кніг паэта. Там, між іншым, зборнікі яго ўласных вершаў ад пачатку літаратурнай дзейнасці, кніжкі паэзіі для дзяцей, барадулінскія пераклады кніг на беларускую мову.

Літаратурная крытыка сачыненняў Барадуліна знаходзіцца ў рубрыцы „Рэцэнзіі і аналіз". Там распавядаецца пра філасофскую думку паэта, змешчаны аналізы асобных вершаў, успаміны пра сустрэчы з літаратарам.

Рубрыка „Вершы" гаворыць сама за сябе. Праўда, чамусьці ўладальнікі сайта не парупіліся пазначыць дат іх напісання. Таксама як і ў рубрыцы „Галерэя" невядома дзе і калі былі зроблены змешчаныя там здымкі Рыгора Барадуліна.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара




Рух, які дамогся незалежнасці Беларусі

# 25 гадоў з дня заснавання БНФ „Адраджэньне"

Аргкамітэт Беларускага народнага фронту быў створаны 19 кастрычніка 1988 г. па ініцыятыве Зянона Пазьняка. Гэта здарылася на ўстаноўчым сходзе Беларускага гісторыка-асветнага таварыства памяці ахвяр сталінізму „Мартыралог Беларусі". Сход гэты праходзіў у Менску ў Доме кіно, які месціўся тады ў касцёле свсв. Сымона і Алены. БНФ увабраў у сабе розныя нефармальныя плыні адраджэнцаў беларушчыны, актывістаў рэгіянальных згуртаванняў і вельмі хутка стаў пераўтварацца сапраўды ў народную плынь. У стварэнні руху БНФ бралі ўдзел шматлікія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі — у аргкамітэце былі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Лявон Баршчэўскі, Міхась Ткачоў, Міхась Чарняўскі, Вінцук Вячорка, Алесь Бяляцкі, Ніл Гілевіч, Пімен Панчанка, Кастусь Тарасаў, Яўген Кулік, Мікола Купава і многія іншыя, ужо дагэтуль вядомыя асобы. Неўзабаве з'явіўся і друкаваны орган руху — газета «Навіны БНФ „Адраджэньне"». Першы нумар выйшаў ужо ў снежні 1988 г.

Устаноўчы з'езд ва ўмовах тагачаснай камуністычнай Беларусі не мог адбыцца ў Менску. Ён прайшоў у нашай гістарычнай сталіцы — Вільні — 24-25 кастрычніка 1989 г., да гэтага фактычна ўжо аформіўшыся. Мне не пашчасціла быць на гэтым гістарычным з'ездзе, але тыя з сяброў і знаёмых, што там прысутнічалі, успамінаюць гэтую падзею заўсёды з нейкім асаблівым натхненнем. Добра памятаю і рэзананс, які выклікала праведзенне з'езда, як хутка БНФ стаў развівацца, разгаліноўвацца, як імкліва паўставалі рэгіянальныя структуры і суполкі, якія хутка яднялі ўсіх прыхільнікаў перамен і беларускай незалежнасці. Прайшоўшы з'езд, на якім было 399 дэлегатаў, прыняў праграму і статут руху.

БНФ адразу выйшаў на палітычную авансцэну — рух актыўна ўдзельнічаў у выбарах народных дэпутатаў БССР у сакавіку-красавіку 1990 г. У Вярхоўным Савеце БССР адразу была сфармавана дэпутацкая фракцыя з прадстаўнікоў БНФ. Некаторыя пры падтрымцы БНФ сталі дэпутатамі Вярхоўнага Савета СССР — Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, Станіслаў Шушкевіч, Аляксандар Дабравольскі. БНФ арганізоўваў мітынгі і іншыя акцыі, якія зараз ужо абраслі легендамі. Найбольш памятны для многіх мітынг-рэквіем „Дзяды" 30 кастрычніка 1988 г. Гісторыя БНФ першых пяці гадоў грунтоўна апісаная ў першым томе „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" ажно на некалькіх старонках.

У 1993 г. была ўтворана і аднайменная партыя Беларускага народнага фронту. Пасля гэтага арганізацыя перажыла некалькі крызісаў і расколаў, спакваля страчваючы сваю моц і палітычныя ўплывы. Самае прыкрае, што падзяліўшыся на дзве партыі, яна фактычна знікла як масавы рух, які раней яднаў усіх патрыётаў, незалежна ад партыйнай, нацыянальнай, канфесійнай ці якой іншай прыналежнасці.

Але БНФ трывала ўвайшоў у гісторыю нашай дзяржаўнасці, істотна яе наблізіўшы, вярнуўшы ў масавую свядомасць нацыянальную сімволіку — бел-чырвона-белы сцяг і герб „Пагоню", на нейкі час зрабіўшы яе дзяржаўнай, дамогшыся дзяржаўнасці беларускай мовы, укараніўшы ідэалы БНР. БНФ стаўся сімвалам нонканфармізму і апазіцыйнасці. Яскравым паказнікам важкасці і ўплыву БНФ у нашым грамадстве застаецца тое, што ўсіх, хто размаўляе на роднай мове, дагэтуль аўтаматычна называюць бэнэфаўцамі. А прайшло ўжо 25 гадоў...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

4 ☞ працяг

# Таемная Нарва


Будынак млынавага комплексу каля Курова

ламанскае вуха. Спеў птушак у некаторых абставінах мог быць і смяротна небяспечным. Кароль Ягайла так быў заслухаўся ў веснавы спеў салаўёў, што невылечна прастудзіўся і такім чынам завяршыў свае зямныя подзвігі...

Перад вёскай Пшчулчын ад асфальтоўкі адыходзіць жвіроўка ў бок Курова, сядзібы колішняга маёнтка, у якім зараз месціцца праўленне Нарваўскага нацыянальнага парку. Курова таксама скарыстала на заняпадзе Ванева: пасля міжмагнацкіх разборак верагодна ў Курова была пераведзена сядзіба мясцовага радзівілаўскага намесніка.

Даведнік Кабылінскай гміны: „Kurowo założone najprawdopodobniej na początku XV w. Początkowo wieś ruska. Położona na zachodnim brzegu Narwi, przy ujściu rzeczki Kurówki. W roku 1921 naliczono tu 6 budynków z przeznaczeniem mieszkalnym oraz 160 mieszkańców (74 mężczyzn i 86 kobiet). Narodowość polską podało 151 osób, a białoruską 9. W czasie II wojny światowej Kurowo zostało zajęte przez Armię Czerwoną, gospodarstwo przekształcono w kołchoz, a w dworku utworzono sierociniec. Od 1941 r. majątkiem zarządzała administracja niemiecka. Wojnę przetrwały wszystkie budynki mieszkalne i gospodarcze. W 1988 r. dwór z otaczającym go parkiem został przejęty przez Narwiański Park Krajobrazowy przekształcony następnie w Park Narodowy”.

З усяго таго двара зараз „жыве” толькі галоўны будынак, у якім працуе дырэкцыя Нарваўскага нацыянальнага парку. Апошнія будынкі самотна змагаюцца з часам. Каля кіламетра ад галоўнай сядзібы зарастае рознай раслліннасцю колішні млынавы комплекс разам з абшырным жылым будынкам.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага: „Na Podlasiu Narew jest dziwnie bagnista i powolna; płynie ona po szerokiej, obfitującej w łąki nizinie, obfitującej w mnóstwo odnóg i błotnistych maleńkich jeziorek, zarosłych trzciną, sitowiem, miętą wodną i rozmaitem wodnem zielskiem. Roślinność jej jest tu bujna i bogata”. Той жа Слоўнік прыводзіць словы польскага летапісца Яна Длугаша, што „woda Narwi ma tę jeszcze własność, że jej gady jadowite znieść nie mogą; widać to na wężach, które do tratew przyczepione spokojnie czas długi się ukrywają, jak tylko zaś do Narwi się przybliżą, natychmiast z sykiem cofają się, stroniąc od jej wód, jakoby zgubnych dla siebie, i od statków żeglownych pierzchają, co nie tylko w obcych ludziach, ale i w miejscowych podziwienie sprawia”.

Багатая рака, наша Нарва...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



## Адгаданка

1. глыбокі след на целе пасля зажыўшай раны, 2. слонімская рака, 3. раённы горад між Віцебскам і Полацкам, 4. культавае збудаванне ўсходніх хрысціян, 5. вяроўка, якой перавязвалі пярэднія ногі кароў на пашы, 6. водгалас дзятлавай працы, 7. наяўнасць хрыпу ў голасе, 8. прадмет для дзіцячай гульні, 9. „матыль” пад мужчынскім носам, 10. з перапуду хаваецца ў пяткі, 11. сфера афіцыйнай аздараўляльнай дзейнасці.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | | 2 | | | | | |
| | 3 | | | | | | | | 4 | | |
| | | | | | | 5 | | 6 | | | |
| | 7 | | | | | | | | | | |
| | | | 8 | | 9 | 10 | | | | 11 | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 37 нумара**

Аят, бык, вона, мантыя, хота, ярмо.

Рашэнне: **Як няма ахвоты, то няма работы**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 20.10 — 26.10

**(22.03. — 20.04.)** У сэрцы вясна. Не дай уцягнуць сябе ў чужыя справы. Да 22.10. магчымыя балючыя страты, расчараванні. Да 23.10. новыя знаёмствы, нагоды спаткаць жыццёвага партнёра. Сачы за арганізмам, бяжы да лекара нават пры „нявінных” болях. У сям'і паявяцца справы вялікага калібру, патрабуючыя развагі.

**(21.04. — 21.05.)** Шчаслівы ў пачуццях. Паддайся эмоцыям і цешся хвілінай. Быкам нерашучым і пачуццёва хісткім Сатурн паможа раз'ясніць сітуацыю. Да 22.10. настрой найлепшы ў свеце, пасля менш энергіі і запалу. Але не бойся новых задач на працы, падгоніш хвасты, справішся з усім і можаш шмат здабыць. Але моцна пільнуйся ў фінансах.

**(22.05. — 22.06.)** Пачнуцца хандры, благі настрой. Меншая энергія і працаздольнасць. Лепш цяпер не падпісвай дамоў і не бяры на сябе лішніх абавязкаў. Але бярыся за работу — яна змабілізуе цябе і дадасць запалу. Добра высыпайся. У сям'і не марудзь навырост.

**(23.06. — 23.07.)** Будзь разважлівы і асцярожны. Аўтарытэт у сям'і. Пільнуй хатняга бюджэту і ўвядзі дома новыя парадкі. Старайся не есці зашмат салодкага. Варта праверыць гармоны. У кар'еры пачакай — можа справы самі вырашацца; часам варта дастасавацца да зменлівай сітуацыі. Калі спатрэбіцца каса — удасца табе яе знайсці.

**(24.07. — 23.08.)** У пачуццях праменні сонца. Не дай сябе ўблытаць у праблемы далейшай сям'і. У кар'еры — расправіш крылы. Можаш сесці на лёгкую дыету, але асцярожна — цяпер слабейшыя ў цябе страўнік і пячонка. У грашах пасябруй з развагай; без лішняга энтузіязму (асабліва ліпеньскія Львы).

**(24.08. — 23.09.)** У пачуццях задбай аб сябе, колькі ж можна ахвяроўвацца! Магчымыя вялікія спрэчкі ў сям'і (на пачатку тыдня) — хаця будзе непрыемна, табе стане лягчэй; потым будзе лепш. І пачне папраўляцца форма. Але ў кар'еры Марс прымусіць да крышачкі пакоры; могуць вылезці якіясь недаробкі і забытыя хвасты; рабі ўсё старанна. Не пераборшч з выдаткамі. З 21.10. магчымыя складанасці і праблемы — можа трэба будзе адмовіцца ад чагосьці важнага.

**(24.09. — 23.10.)** Вер больш сабе чым іншым. Карыстайся нагодамі, але без лішняга аптымізму. Прыемныя любоўныя сустрэчы. Дома наезд гасцей. Прыліў вітальных сіл і энтузіязму. Прымяняй бабуліны метады лячэння (асабліва Шалі, народжаныя ў верасні — цікуюць запаленні горла, пазух і лёгкіх). На працы, калі нейкія справы не датычаць тваёй асобы — не ўключайся.

**(24.10. — 22.11.)** Вольныя Скарпіёны павінны самі пашукаць таго, хто іх чакае. Вельмі прыемна на ўлонні сям'і. Яшчэ да 23.10. твая форма ненайлепшая, пасля справішся з нямогласцямі нават без лякарстваў. Добра прыбяры ў хаце — адразу адсмеціш і настрой, і думкі. 20-23.10. старайся беспамылкова ацэньваць сітуацыю. Скарпіёны народжаныя пасля 14.11. — чакаюць вас выйгрышы!

**(23.11. — 22.12.)** Да 22.10. напады злосці. Самотным Стральцам прытрапіцца нагода для знаёмства з кімсьці вельмі цікавым. Вельмі будзе цябе цягнуць да салодкага, кепска будзеш пераносіць змены надвор'я. Але не сядзі дома. Калі наракаеш на высокі ціск ці сэрца — неадкладна схадзі да доктара. Пад канец тыдня не бяры крэдытаў, не падпісвай дамоў.

**(23.12. — 20.01.)** Сям'я з табой не будзе мець лёгкага жыцця! Не адмаўляйся ад дапамогі сваякам. Паклапаціся аб свае ногі, лячыся і рэабілітуйся. Пазбудзешся апухласці, лішку вады, добра пахудзееш. Адпачывай! На працы паявіцца нагода на добрае супрацоўніцтва і рэалізацыю фантастычных праектаў, дадатковы заробак.

**(21.01. — 19.02.)** Уступіць у цябе дух саперніцтва, але будзь і дыпламатам. На працы прыкладзіся да абавязкаў, звярні ўвагу на дэталі; не страчвай веры ў сябе. З 24 (да 28.10.) малым высілкам даб'ешся віднага выніку; удачы ў інтарэсах.

**(20.02. — 21.03.)** У пагоні за ўражаннямі ў пачуццях, поўнымі жменямі будзеш чэрпаць з жыцця. Аднак пільнуйся са здароўем — прычэпяцца хваробы (асабліва каля 22.10.), лячыся натуральнымі сродкамі. Аб нічым не вырашай усляпую. З 24 (да 28.10.) лёгка дакажаш, што няма для цябе немагчымага.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Наш святы пакутнік з Палічнай (ч. 2)

Згодна з вяскова-патрыярхальнай традыцыяй, мае субяседнікі, палічнюкі, накіравалі не да сваячкі святога па крыві, толькі да яе мужа Яна Казачука. Прыпушчанскі народ чамусьці больш цэніць мужчынскі інтэлект.

— Як вы даведаліся пра святога? — пытаем у Янкі Казачука з Гайнаўкі.

— Усё дзякуючы Яраславу Харкевічу. Ён усё раскапаў. Прыехаў у Палічну і пытае ў людзей. Дык яны направілі яго да нас, у Гайнаўку. Ён думаў, што святы Юры — гэта родны брат майго цесця. Я падумаў, і кажу — не, немагчыма такое. Бо цесць мой з 1912 года. А той святы на трыццаць гадоў старэйшы. Дык мы ўжо супольна дайшлі, што гэта не дзядзька, а брат дзеда маёй жонкі будзе.

У сям'і Казачукоў не было ніякіх сумненняў, што святы гэта іх продак. Яраслаў Харкевіч прывёз з сабой здымак. Як глянулі — пазналі.

— Я пагля́дзела і адразу ажыў мне дарагі вобраз, — кажа Ніна Казачук. — Ён вельмі падобны на майго тата. Адразу ведала, што мы — сям'я. У яе роднай хаце пагадвалі, што быў калісьці ў родзе бацюшка. І што загінуў недзе далёка ў Расіі.

— Яраслаў Харкевіч парадаваў нас яшчэ адной добрай навіной, — дадае Ян Казачук. — Ён сказаў, што ў Літве жыве ўнучка святога. Матушка Ала.

У сям'і матушкі Алы памяталі пра Палічну, вёску іх дзеда, якая знаходзілася ў Белавежскай пушчы. Шукалі яе шмат разоў на карце. Толькі чамусьці не падумалі, што Палічна можа быць на польскім баку! Сем'і сустрэліся ў час асвячэння першай іконы святога Герогія з Палічнай. Бо ў Вэрстоцкай царкве цяпер дзве іконы святога. Гэтая акалічнасць, дарэчы, замест з'яднаць, падзяліла парафію і сям'ю святога...



Ікона святога Георгія з Палічнай напісана іканапісцамі ў Іканаграфічнай студыі ў Бельску-Падляшскім


Ніна і Ян Казачукі

* * *

У 1911 г. Юры Сцепанюк закончыў душпастырскія курсы ў Маскве. Год раней у сям'і нарадзілася дачушка Ніна. Спачатку Сцепанюкоў накіравалі ў парафію Гліноўка ў Лепсінскім уездзе, што ў Сямірэчанскай вобласці. Парафія знаходзілася на тэрыторыі цяперашняга Казахстана, недзе 450 кіламетраў ад Алма-Аты. Да мяжы з Кітаем было ўсяго 250 кіламетраў.

Пасля двух гадоў іх перавялі на парафію ў вёску Андрэеўскае. Разам з пастырскай паслугай айцец Юры выкладаў арыфметыку і рэлігію ў мясцовай школе. У сямейцы, як грыбы пасля дажджу, прыходзілі на свет чарговыя дзеткі: Міколка, Таіса і Ніна. Матушка Ала — дачка перадапошняй Таісы. Сямейнае шчасце разбурыла Кастрычніцкая рэвалюцыя. У народзе пайшлі чуткі, што бальшавікі з заядласцю знішчаюць духавенства. У сувязі з рэальнай пагрозай многія святары падаліся ў Кітай, каб там перачакаць ліхалецце.

Бацюшка Юры не пабаяўся навалы, ён рашыў застацца з народам.

— Што ўсім, тое і мне! — адказаў па-падляшску.

Якраз набліжалася Тройца. Святар не хацеў пакідаць сваіх вернікаў, царкву. Хто ж за яго багаслужбу адправіць? Як тут пакінуць іх адных у такім моры няшчасця. Кажуць — брат брата забівае! Не, для яго не было выбару. Не мог пакінуць людзей.

Жахлівы сцэнарый усё ж збыўся. У Андрэеўскае прыйшлі бальшавікі. Бацюшку арыштавалі і трымалі пад замком два тыдні. У гэты час пад'ежджвалі мясцовых, каб хто абвінаваціў духоўнага ў варожасці да народнай улады. Ніхто з мясцовых не пайшоў на гэта, не прадаў. Наадварот, людзі заступіліся за ім, як адзін муж. Тады адпусцілі дамоў.


З мікрафонам настаяцель Вэрстоцкага прыхода айцец Павел Кучынскі

* * *

— Але ненадоўга, — кажа Ян Казачук. — Яны прыйшлі другі раз. Матушка кажа: „Няма дома. Паехаў дзесьці. Ужо некалькі дзён як няма дома”. І паказала рукой у той бок, дзе Кітай. Чырвоныя занадта і не настойвалі. Не ўрываліся ў хату. Загад выконвалі... І тады, ён, гэты Юры, выйшаў з хаты і сам здаўся ў іх рукі...

Ян Казачук, хоць цвёрды пушчанскі мужчына, абцірае слязу. Быццам і сёння ён бачыў тую жудасную сцэну расстрэлу. Як айца Юрыя вялі канвоем за вёску і, не зважаючы на лямант жанчын, якія падалі ім да ног і прасілі змілавання, не адступілі ад свайго. Расстрэл адбыўся на абрыве ля ракі Чынджал. Бальшавікі хацелі яшчэ паздзекавацца і сваёй лютасцю да жывога напалохаць народ. Яны прыдумалі гульню. Амбіцыяй гэтых злачынцаў было пацэліць у крыж на грудзях бацюшкі Георгія. Стралялі да яго як да жывой мішэні, рагочучы пад лямант жанчын. Матушка Еўфрасіння самлела тады ад жаху. Усявышні ўсцярог яе ад вобразу, які сам па сабе мог забіць чалавека.

Бацюшка Сцепанюк доўга пакутнічаў. Паранены, да вечара праляжаў на абрыве. Тады адзін бальшавік змілаваўся. Ён вярнуўся вечарам і застрэліў святара.

У гэты раз цаляючы ў голаў...

Будучы святы, прадчуваў сваю канчыну.

Яшчэ да смерці ён навёў канцылярскія парадкі, папоўніў парафіяльныя кнігі. Пасля напісаў справаздачу да свайго настаяцеля а. Уладзіміра Цэдрынскага з Лепс. Ён заяўляў пра прадчуванне сваёй смерці. Прасіў дапамогі для сваёй матушкі Еўфрасінні і дзетак-сіротак. Таксама ў гэтым лісце ён прасіў у Бога прабачэння для сваіх катаў...

*(працяг будзе)*

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960